ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 49 (2628)
ПЯТНІЦА
8
снежня 1972 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.

# МІНСК, ДЗЕНЬ ЗАЎТРАШНІ...



**У памяшканні сталічнага палаца спорту «Працоўныя рэзервы» адбылася архітэктурная выстаўка, прысвечаная 50-годдзю ўтварэння СССР.**

**У вялікай зале выстаўкі былі і ранейшыя планіроўкі, і сённяшні Мінск, і яго будучае. Планшэты знаёмілі з вуліцамі і будынкамі, якіх яшчэ няма, з праектамі, якія ўжо сёння ажыццяўляюцца. На здымках, якія зрабіў В. Анохін,—праект гасцініцы «Беларусь» (архітэктары Л. Пагарэлаў, Л. Свірыд, А. Гуль; інжынеры А. Саўчанкаў, М. Платок), праект забудовы плошчы Леніна ў Мінску (аўтары праекта С. Баткоўскі, Л. Гельфанд, В. Марцьянаў).**

# І ЗНОЎ КОЛАС ПРЫЙШОЎ У СТАЛІЦУ

*ВЕЧАР У КАЛОННАЙ ЗАЛЕ ДОМА САЮЗАЎ, ПРЫСВЕЧАНЫ 90-годдзю З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЯКУБА КОЛАСА*

Гарачай любоўю да роднага краю, да Савецкай Айчыны прасякнута ўся творчасць народнага паэта БССР Якуба Коласа. Вось чаму 90-годдзе з дня нараджэння вялікага песняра адзначаецца, як свята народаў усёй шматнацыянальнай Савецкай краіны.

Юбілею Коласа 30 лістапада быў прысвечаны ўрачысты вечар грамадскасці Масквы. У Калонную залу Дома саюзаў прыйшлі шматлікія паклоннікі вялікага таленту паэта — рабочыя, прадстаўнікі інтэлігенцыі, студэнты. У прэзідыуме — намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР Н. Л. Сняжкова, загадчык сектара мастацкай літаратуры ЦК КПСС А. А. Бяляеў, першы сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў СССР Г. М. Маркаў, загадчык аддзела культуры ЦК КПБ С. В. Марцалеў, пісьменнікі, дзеячы культуры і мастацтва, вучоныя. Цёпла сустракаюць прысутныя дэлегацыю беларускай пісьменніцкай арганізацыі на чале з Максімам Танкам.

Вечар ад імя Саюза пісьменнікаў СССР, Саюза пісьменнікаў і Міністэрства культуры БССР адкрыў Герой Сацыялістычнай Працы, сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў СССР М. С. Ціханаў.

Сярод выдатных імён савецкіх літаратараў з гордасцю і вялікай павагай вымаўляецца імя Якуба Коласа, сказаў ён.

Сёння, рыхтуючыся да слаўнага пяцідзесяцігоддзя ўтварэння СССР, можна з поўнай упэўненасцю сказаць, што беларуская літаратура і адзін з яе стваральнікаў Якуб Колас унеслі велізарны ўклад ва ўмацаванне інтэрнацыянальнага брацтва, нашага шматнацыянальнага саюза свабодных і роўных. Заклікаючы да дружбы народаў, Колас у сваіх вершах і паэмах, у апавяданнях і аповесцях выказваў думы і спадзяванні народныя, услаўляў чалавека-барацьбіта за шчасце людское, чалавека-будаўніка новага светлага жыцця.

Любіў Якуб Колас маляўнічую беларускую прыроду, шырокія калгасныя нівы, растучыя сацыялістычныя гарады. Ён тонка адчуваў кожнае праяўленне новага і падтрымліваў яго ўсёй сілай свайго пісьменніцкага таленту. Героі яго кніг, сціплыя, смелыя, моцныя і таленавітыя людзі, любяць родную зямлю і працу на ёй.

Непаўторны паэтычны голас Якуба Коласа, багаты народнай крынічнай свежасцю, будзе заўсёды крыніцай невычарпальнага натхнення шукальнікаў новага, вялікага, цудоўнага.

Увесь свой магутны талент паэта-трыбуна, веды вучонага, мудрасць і нястомную энергію дзяржаўнага дзеяча Якуб Колас аддаваў Радзіме, справе вялікай ленінскай партыі.

«Слова аб Якубу Коласу» сказаў першы намеснік старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, народны пісьменнік Беларусі Іван Шамякін. Ён ахарактарызаваў творчы шлях Коласа, яго звонкую партыйную музу, якая натхнёна дапамагае людзям працы жыць, змагацца за камуністычныя ідэалы.

Глыбока рэалістычныя, народныя па духу творы — паэмы «Новая зямля» і «Сымон-музыка», аповесці «На прасторах жыцця», «Дрыгва» і многія іншыя з'яўляюцца вялікім дасягненнем беларускай літаратуры, якія прынеслі ёй усесаюзную і нават сусветную вядомасць.

Творчасць Якуба Коласа, гэтак жа як і Янкі Купалы, — гэта ўзвышаная, радасная песня на славу савецкай эпохі, партыі, ратнай і працоўнай мужнасці новага жыцця.

Адна з характэрных рыс Коласа — яго інтэрнацыяналізм, адна з самых значных тэм, якая займала ганаровае месца ва ўсёй яго творчасці, — тэма дружбы народаў. Сам паэт падкрэсліваў, што выхоўваўся ён на класічнай рускай літаратуры. Праз усё жыццё пранёс ён вечную светлую любоў да вялікага рускага народа і яго літаратуры, да народаў-братоў нашай сацыялістычнай Радзімы. Радасна вітаў паэт саюз савецкіх народаў.

Аб інтэрнацыянальным значэнні творчасці натхнёнага песняра, вернага традыцыям Горкага і Маякоўскага, аб той любві да яго, якая жыве ў сэрцах мільёнаў людзей, горача і пранікнёна гаварылі на вечары Анатоль Сафронаў, паэт Мікола Нагнібеда з Украіны, прадстаўнік літоўскай пісьменніцкай арганізацыі Альбінас Жукаўскас, пасланец грузінскіх літаратараў Іосіф Наняшвілі, узбекскі пісьменнік Рахмат Файзі і паэт з Ленінграда Леанід Хаустаў.

У заключэнне вечара майстры мастацтваў Беларусі паказалі вялікі святочны канцэрт, у якім былі выкананы творы Якуба Коласа.

**А. КАПУСЦІН.**
**(БЕЛТА).**

## ВІНШУЕМ З УЗНАГАРОДАЙ!

*Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР за плённую літаратурную дзейнасць і ў сувязі з шасцідзесяцігоддзем з дня нараджэння пісьменнік Бурдзялёў (Русецкі) Аляксей Сцяпанавіч узнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.*

●

*Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР за поспехі ў навучанні і камуністычным выхаванні спецыялістаў мастацкага профілю для народнай асветы і культуры рэспублікі ўзнагародзіў групу работнікаў Мінскага мастацкага вучылішча імя А. К. Глебава.*

*Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР узнагароджаны Лісоўская Генрыета Станіславаўна, выкладчыца; Малішэўскі Альгерт Адамавіч, выкладчык.*

*Граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР узнагароджаны Дубар Леанід Паўлавіч, выкладчык.*

## ПАРТЫЙНЫ СХОД КАМПАЗІТАРАЎ

Адбыўся справаздачна-выбарчы сход партыйнай арганізацыі Саюза кампазітараў БССР.

Справаздачны даклад зрабіла сакратар партыйнай арганізацыі А. Ракава. У спрэчках выступілі Р. Шырма, А. Кузняцоў, І. Лучанок, Ю. Семяняка, Д. Смольскі, М. Шнэйдэрман, Б. Смольскі.

Сакратаром партарганізацыі Саюза кампазітараў Беларусі абрана А. Ракава, намеснікам сакратара — Д. Смольскі.

## ЗА ЛЕПШЫЯ ПАКАЗЧЫКІ

За лепшыя паказчыкі ў культурна-шэфскай рабоце на сяле Міністэрства культуры СССР і цэнтральныя камітэты прафсаюза работнікаў культуры, прафсаюза рабочых і служачых сельскай гаспадаркі і нарыхтовак прысудзілі Дзяржаўнай ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга бібліятэцы імя У. І. Леніна вымпел і грашовую прэмію. Беларускі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга акадэмічны тэатр імя Я. Купалы, Віцебскі драматычны тэатр імя Я. Коласа, Мінскі тэатр юнага гледача, Дзяржаўны народны хор БССР, Саюз пісьменнікаў БССР, Магілёўскі палац культуры чыгуначнікаў, палац культуры Лідскай абутковай фабрыкі і клуб Віцебскага ветэрынарнага інстытута ўзнагароджаны дыпломамі.

**Л. САСІМОВІЧ.**

*Старэйшаму літаратурна-мастацкаму і грамадска-палітычнаму часопісу рэспублікі «Полымя» 18 снежня спаўняецца 50 гадоў. З гэтай нагоды Саюз пісьменнікаў БССР накіраваў творчаму актыву, рэдакцыйнай калегіі і супрацоўнікам рэдакцыі часопіса «Полымя» сваё віншаванне:*

**«Дарагія сябры!**

**У дзень слаўнага 50-гадовага юбілею літаратурна-мастацкага і грамадска-палітычнага часопіса «Полымя» шлём Вам шчырае гарачае віншаванне.**

**Часопіс загаварыў са сваімі чытачамі ў 1922 годзе, калі толькі што закончылася грамадзянская вайна, калі ўсталёўваліся мір і парадак на вольнай савецкай зямлі, калі народы былой царскай Расіі замацавалі сваё вялікае брацтва ў адзіным Саюзе Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.**

**Задача часопіса была ясная: мастацкім і публіцыстычным словам паказваць тое новае, што прынесла людзям рэвалюцыя, весці барацьбу са спадчынай старога, мінулага, раскрываць сацыяльныя працэсы ў вёсцы і ў горадзе, змагацца за новага героя літаратуры, за фарміраванне яго характару на сацыялістычных пачатках. Вакол «Полымя» адразу ўтварылася моцнае пісьменніцкае ядро. Сістэматычна ў ім друкаваліся Я. Купала, Я. Колас, З. Бядуля, Ц. Гартны, Ул. Галубок, М. Гарэцкі і іншыя.**

**Часопіс змагаўся за прынцыпы марксізму-ленінізму ў літаратуры, за авалоданне пісьменнікамі метадам сацыялістычнага рэалізму. Ён быў выказнікам дум і спадзяванняў народа на ўсіх этапах развіцця рэспублікі, даваў шырокую дарогу творам, у якіх адлюстроўваліся актуальныя праблемы часу.**

**Праз усё паўстагоддзе часопіс шмат увагі аддаваў сувязям нашай літаратуры з літаратурамі братніх рэспублік, з прагрэсіўнымі пісьменнікамі свету, быў шчырым прапагандыстам дружбы паміж народамі, ідэй пралетарскага інтэрнацыяналізму.**

**У тым, што беларуская савецкая літаратура стала адным з перадавых атрадаў шматнацыянальнай савецкай літаратуры, што яна вырасла, умацавалася, узбагацілася выдатнымі імёнамі таленавітых пісьменнікаў, якіх ведаюць чытачы не толькі ў Беларусі, але і далёка за яе межамі, значная заслуга і часопіса «Полымя».**

**Як і ўся наша літаратура, часопіс заўсёды карыстаўся пільнай увагай Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Беларусі і ўрада рэспублікі, якія накіроўвалі яго дзейнасць, памагалі яму своечасова заўважаць і выпраўляць памылкі і недахопы.**

**Часопіс быў шчырым, добрым сябрам пісьменнікаў, на яго старонках знаходзілі падтрымку маладыя таленты нашай літаратуры.**

**«Полымя» ахвотна друкавала і друкуе разнастайныя матэрыялы, прысвечаныя важным праблемам развіцця эканомікі і культуры Беларусі. Юбілей часопіса «Полымя» — гэта свята ўсёй грамадскасці нашай рэспублікі.**

**Жадаем творчаму актыву, рэдакцыйнай калегіі і супрацоўнікам «Полымя» і надалей мацаваць сувязь з жыццём, здзяйсняць планы і задумы, узбагачаць літаратуру новымі творамі, вартымі нашага часу, вялікіх спраў савецкага чалавека, вартымі эпохі камунізму.**

**Новых вам поспехаў і творчага гарэння!».**

*Далучаемся да гэтага віншавання і жадаем калектыву новых творчых поспехаў.*

## ШЛЯХ ЧАСОПІСА

ПЯЦЬДЗЕСЯТ ГАДОЎ...
Многа гэта ці мала?
Для гісторыі, для чалавецтва... Не, ніяк не скажаш, што мала, ніяк! Менавіта гэтыя пяцьдзесят савецкіх гадоў вельмі многа далі чалавецтву. Так, многа. Цэлыя народы, якія да Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі гібелі ў нястачы, цярпелі паўсядзённыя здзекі і прыгнёт з боку багатых, не маючы свайго пісьменства, а калі і было яно ў іх, то паўсюдна забаранялася царскім самадзяржаўем, і раптам сталі «людзьмі звацца»...

У полымі Вялікага Кастрычніка пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі гартаваў і яднаў свае сілы рэвалюцыйны пралетарыят, каб затым зліцца ў непарушны, раўнапраўны Саюз братніх рэспублік.

Векапомны 1922 год вызначаўся якраз тым, што да гэтага часу былі ўшчэнт разбіты Чырвонай Арміяй шматлікія ворагі Краіны Саветаў — як унутраныя, так і іх замежныя найміты.

Працоўныя маладой савецкай рэспублікі, злучаныя непарыўным братэрскім сяброўствам, перамаглі таму, што мелі самую надзейную, самую грозную і моцную зброю ў свеце—палкае ленінскае слова, ленінскае вучэнне, якое азарыла шлях мільёнам былых нявольнікаў, раскрыла перад імі шырокія далягляды камунізму...

Першы літаратурны часопіс на роднай мове — гэта ж і ёсць адно з тых рэальных здзяйсненняў, на якія і натхняў Кастрычнік, вызваліўшы бязмежныя духоўныя сілы працоўных для будаўніцтва новага, камуністычнага грамадства, стварэння самабытнай сацыялістычнай культуры.

Рэдкалегія «Полымя рэвалюцыі»—так спачатку называўся часопіс — у першым жа нумары змясціла дэкларацыю, якая абвяшчала, што часопіс, з'яўляючыся выказнікам рэвалюцыйнай марксісцкай думкі, будзе заўсёды рашуча выступаць супраць усялякіх ворагаў Савецкай улады, служыць справе сацыялістычнага будаўніцтва, развіццю беларускай літаратуры.

Дэкларацыя заклікала ўсіх, хто хоча сумленна і шчыра будаваць новае жыццё — будаваць яго ў цесным з'яднанні з працоўнымі Расіі, з усім савецкім народам. У дэкларацыі гаварылася і аб тым, што на старонках часопіса будуць друкавацца творы толькі тых аўтараў, якія поўнасцю прымаюць Савецкую ўладу, і хто чэрпае сваё творчае натхненне не ў «беларускай старадаўшчыне», а ў калектыўнай стваральнай працы разняволенай грамады.

Беларусь, адсталы жабрачы край у мінулым, край пракаветных балот і адвечных лясоў, за гады Савецкай улады ператварылася ў квітнеючую сацыялістычную рэспубліку з перадавой навукай, магутнай індустрыяй, развітай лёгкай прамысловасцю і сельскай гаспадаркай.

Часопіс «Полымя» — яркі, змястоўны летапіс савецкай рэчаіснасці, шчыры сведка гістарычных подзвігаў і перамог працоўных мас Беларусі, савецкага народа. На працягу паўстагоддзя на старонках часопіса адлюстроўваліся ў жывым мастацкім слове ўсе найбольш значныя зрухі і дасягненні, усё тое новае, што пастаянна, з году ў год, нараджалася на беларускай зямлі.

Часопіс яднаў вакол сябе ўсе лепшыя літаратурныя сілы рэспублікі і заўсёды быў самым актыўным памочнікам партыі ў вырашэнні надзённых грамадска-палітычных задач, у выхаванні чалавека новага сацыялістычнага ладу, у сцвярджэнні і развіцці ленінскіх прынцыпаў у галіне літаратуры і мастацтва.

Творы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Змітрака Бядулі, Цішкі Гартнага, Максіма Гарэцкага, Канстанцыі Буйло — першых беларускіх савецкіх пісьменнікаў — па праву займалі старонкі часопіса, бо іх рэвалюцыйны пафас, іх ідэйны змест як ніколі адпавядалі патрабаванням часу.

Разам з тым, шмат увагі часопіс надаваў і прапагандзе марксізму-ленінізму. Вядомыя партыйныя дзеячы, гісторыкі, эканамісты, філосафы, работнікі культуры і мастацтва пастаянна выступалі ў часопісе. Важна адзначыць, што ўпершыню ў Беларусі часопіс «Полымя» надрукаваў шматлікія творы У. І. Леніна ў перакладзе на беларускую мову, сярод якіх была вядомая ленінская праца «Аб карыкатуры на марксізм і аб «імперыялістычным эканамізме».

Зрэшты, на старонках «Полымя» з'явіліся і першыя мастацкія творы беларускіх пісьменнікаў пра Уладзіміра Ільіча Леніна — паэмы Міхася Чарота «Ленін» і Змітрака Бядулі





**Выпуск часопіса — гэта карпатлівая праца ўсяго калектыву рэдакцыі. На адной з чарговых лятучак ішло абмеркаванне плана першых нумароў наступнага года. З іскрынак творчага настрою нараджаюцца задумы...**

**Выхад кожнага нумара «Полымя» — праца не толькі супрацоўнікаў рэдакцыі, але і работнікаў друкарні. Сярод тых, хто таксама дае жыццё кніжкам часопіса, — друкар Леанід Фралоў і прыёмшчыца Вера Навіцкая.**

Фота Ул. КРУКА.

«Чырвона-чорная жалоба», вершы Алеся Гурло, артыкул вядомага грамадскага і палітычнага дзеяча Алеся Чарвякова «Год без Леніна», дзе гаварылася пра невыказны смутак беларускага народа з прычыны смерці любімага правадыра, пра бязмежную вернасць і адданасць працоўных рэспублікі ленінскім запаветам.

Празрыстай, незамутнёнай крыніцай можна назваць часопіс «Полымя». Хіба гэта не так? Знаёмячыся з яго нумарамі — ад першага і да апошняга, — заўважаеш, як наша беларуская літаратура з кожным годам прыкметна паляпшалася ў якасці, сталела, набывала ўсё большую ідэйную сілу, пранікаючы ў самыя глыбінныя пласты народнага жыцця, як расло майстэрства пісьменнікаў, пашыраўся іх палітычны кругагляд і творчы дыяпазон, а разам з тым узрастала мастацкая вартасць і значнасць твораў, удасканальваліся жанры.

Сведчанне гэтаму — тыя шматлікія мастацкія творы, што ўпершыню пабачылі свет праз часопіс «Полымя» і жывуць цяпер доўгім зайздросным жыццём кніг, без якіх сёння нельга ўявіць нашу літаратуру.

На дзіва багаты і разнастайны па творчай манеры аўтарскі актыў часопіса «Полымя» сёння.

Вось далёка не поўны пералік колішніх пачаткоўцаў, чые першыя значныя творы былі надрукаваны ў «Полымі», — Міхась Лынькоў, Уладзімір Дубоўка, Кандрат Крапіва, Алесь Якімовіч, Пятрусь Броўка, Аркадзь Куляшоў, Янка Скрыган, Алесь Звонак, Мікола Хведаровіч, Максім Лужанін, Тарас Хадкевіч, Макар Паслядовіч, Аляксей Зарыцкі, Пімен Панчанка, Анатоль Вялюгін, Антон Бялевіч, Сяргей Грахоўскі, Кастусь Кірэнка, Аляксей Кулакоўскі, Іван Шамякін, Іван Мележ, Янка Брыль, Андрэй Макаёнак, Іван Навуменка, Уладзімір Карпаў, Алесь Асіпенка, Аляксей Пысін, Аркадзь Марціновіч, Рыгор Барадулін, Хведар Жычка, Генадзь Бураўкін — усе яны, хто ў свой час быў клапатліва сагрэты жыватворным палымянскім агнём, сталі вядучымі беларускімі пісьменнікамі і зараз складаюць надзейную баявую кагорту творчага цэха часопіса-юбіляра.

Другую палову часопіса займаюць, як правіла, мастацкія нарысы, публіцыстыка, крытыка і літаратуразнаўства, успаміны, дзённікі, старонкі нашай гісторыі і шэраг іншых раздзелаў, дзе можна сустрэць цікавыя даследаванні пра навуку, культуру і мастацтва рэспублікі. Як і ў прозе, паэзіі і драматургіі, былі і тут свае творчыя ўдачы і пэўныя здабыткі.

Асабліва помняцца грунтоўныя публіцыстычныя артыкулы грамадскіх і палітычных дзеячоў В. Р. Кнорына, С. І. Прытыцкага, Ф. А. Сурганава, С. А. Пілатовіча, успаміны Маршала Савецкага Саюза І. І. Якубоўскага, генерала арміі П. І. Батава, старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР В. І. Казлова, кіраўніка партызанскага руху Р. Н. Мачульскага, нарысы Ігната Дуброўскага, Веры Палтаран, Янкі Сіпакова, Васіля Якавенкі, Валянціна Мысліўца, літаратуразнаўчыя артыкулы і рэцэнзіі Рыгора Шкрабы, Сцяпана Александровіча, Васіля Барысенкі, Юльяна Пшыркова, Алега Лойкі, Віктара Каваленкі, Уладзіміра Юрэвіча, Дзмітрыя Бугаёва, Уладзіміра Гніламёдава, Варлена Бечыка, Вячаслава Рагойшы, Міхася Мушынскага і шмат іншых.

Калі гаварыць пра крытыку і літаратуразнаўства, то часіпос «Полымя» мае самае непасрэднае, блізкае дачыненне да тых аўтараў, якія сёння паспяхова і плённа працуюць у гэтым нялёгкім жанры. Для большасці з іх старонкі часопіса былі шчаслівай стартавай пляцоўкай у літаратуру.

Нядаўняя Пастанова ЦК КПСС «Аб літаратурна-мастацкай крытыцы» зноў падкрэсліла надзённасць і важнасць гэтага жанру ў далейшым развіцці літаратуры і мастацтва, а таксама ў ідэйна-мастацкім выхаванні чытачоў. Зыходзячы з палажэнняў гэтай пастановы, часопіс «Полымя» не пакідае ўбаку кожную значную літаратурна-мастацкую з'яву, кваліфікавана аналізуе яе, даючы ёй прынцыповую партыйную ацэнку.

Часопіс «Полымя» прайшоў нялёгкі, складаны шлях. Гісторыя захавала яго сляды. Праўда, іх роўны ланцужок раптоўна абрываецца — то быў час чорнай фашысцкай акупацыі, і часопіс тады не выдаваўся...

Адгрымелі баі, аціх грукат гармат —і зноў на поўны голас загаварыла Муза. І зноў — як год, так дванаццаць слядоў-кніжак, дванаццаць пуцявін, кожная з якіх — ступі толькі! — выведзе цябе ў вялікі сонечны свет мастацтва!

...Гэта сімвалічна, што юбілей «Полымя» — аднаго са старэйшых літаратурна-мастацкіх і грамадска-палітычных часопісаў краіны — супадае з пяцідзесяцігоддзем утварэння СССР. Пачуццё вялікай сям'і, адзінай і дружнай, часопісу нашаму было ўласціва заўсёды.

**Алесь МАСАРЭНКА,**
**адказны сакратар часопіса «Полымя».**

# СТАРОНКІ ГІСТОРЫІ

## А ПАЧЫНАЛАСЯ ТАК...

*Гэты нумар цяпер чытаюць, бадай, штодня. Бяруць яго студэнты, выкладчыкі, цікавяцца пісьменнікі і журналісты. Кожнаму хочацца ведаць, як часопіс пачынаў. А гэты пачатак быў сціплым. Просценькая вокладка, шэрая папера. На вокладцы словы: «Беларуская часопісь літаратуры, політыкі, культуры, экономікі й публіцыстыкі».*

*У рэдакцыйным артыкуле «Нашы заданні» ўказваецца на тыя задачы, якія сталі перад маладой літаратурай. З паэзіі надрукаваны новыя вершы Ц. Гартнага, А. Гурло, М. Чарота, А. Александровіча і іншых аўтараў. Я. Нёманскі выступае з нататкамі «Над Краманню» (з часоў 1905 года).*

*З першага нумара рэдкалегія вялікую ўвагу ўдзяліла публіцыстыцы. Артыкулы «Занядад сусветнай гаспадаркі і сусветны фашызм», «1 студзеня — рэвалюцыйна-гістарычнае свята Савецкай Беларусі», «Паэзія аб рэвалюцыі і рэвалюцыя ў паэзіі» і іншыя ўзнімалі актуальныя пытанні грамадскага і культурнага жыцця.*

*У нумары змешчаны рэцэнзіі на зборнік «Музыкальны лірнік», які выйшаў у Берліне, на кнігу М. Чарота «Завіруха», а таксама на паасобныя перыядычныя выданні. «Хроніка беларускай культуры» добра дапаўняе гэты першы нумар часопіса-юбіляра.*

## ЧЛЕН РЭДКАЛЕГІІ — ІАГАНЕС БЕХЕР

*У 1966 годзе адзначалася 75-годдзе з дня нараджэння выдатнага нямецкага пралетарскага пісьменніка Іаганеса Бехера. Юбіляру прысвяціў рэдакцыйны артыкул і часопіс «Полымя». У ім, у прыватнасці, гаварылася: «Сёння з выключнай цікавасцю перагортваеш старонкі часопіса «Полымя» за 1927—1928 гады, кожны нумар якога — амаль без выключэння — прыносіў чытачу новыя палымяныя творы пісьменніка — верш, баладу, паэму, апавяданне, артыкул, раман... І. Р. Бехер — дарагая старонка нямецка-беларускіх сувязей, сувязей дружбы, пралетарскага інтэрнацыяналізму».*

*Перагорнем тыя нумары, якія даўно сталі гісторыяй. Пажоўклыя ад часу, яны — само дыханне гісторыі, шмат расказваюць аб Германіі. У пачатку 1927 года І. Бехер прыслаў у рэдакцыю часопіса свае творы і здымак, на якім напісаў, што выказаў жаданне быць пастаянным супрацоўнікам. Вершы яго адразу былі перакладзены на беларускую мову і пачалі друкавацца ў чарговых нумарах. Пісьменнік даслаў і некалькі сваіх апавяданняў. Яны былі з вялікай цікавасцю сустрэты чытачамі.*

*Цікавасць да творчасці нямецкага пісьменніка на Беларусі ўзрастае з кожным годам. Часопіс па-ранейшаму рэгулярна публікуе яго новыя творы. За раман «Люізіт або адзіная справядлівая вайна» на радзіме І. Бехер абвінавачваўся ў дзяржаўнай здрадзе. У першым паўгоддзі 1928 года раман друкуецца ў «Полымі», а неўзабаве выходзіць і асобнай кнігай. А калі ў Германіі супраць пісьменніка фабрыкаваўся судовы працэс, у абарону І. Бехера выступілі і беларускія літаратары. Тэлеграму, якая была накіравана ў адрас Лейпцыгскага суда, ад імя рэдкалегіі часопіса падпісалі Я. Купала, Я. Колас, М. Зарэцкі, А. Гурло, А. Александровіч, А. Дудар, Я. Нёманскі.*

*У гэтыя ж гады на старонках «Полымя» рэгулярна змяшчаецца хроніка літаратурнага жыцця Германіі, чытач інфармуецца аб новых творах І. Бехера.*

*У 1936 годзе пісьменнік прыязджае ў Мінск, каб прыняць удзел у рабоце спецыяльнага Пленума СП СССР, які прысвячаўся пытанням развіцця беларускай і башкірскай літаратур. Адначасова ён прапаноўвае свае новыя творы часопісу, якія былі перакладзены на беларускую мову.*

*Плённа працуе І. Бехер пасля заканчэння другой сусветнай вайны. Ён вяртаецца на радзіму, шмат піша, адна за другой выходзяць кнігі яго новых твораў. Не забывае пісьменнік і пра сваіх беларускіх сяброў. У гэтыя гады некаторыя вершы ён прапаноўвае для перакладу паэтам Я. Семяжону, А. Зарыцкаму і іншым. Гучаць гэтыя вершы не толькі ў часопісе, але і ў іншых рэспубліканскіх выданнях. Часопіс не абмяжоўваецца друкаваннем твораў І. Бехера, ён прысвячае яго творчасці два артыкулы. Адзін з іх напісаў А. Дымшыц, а другі — Д. Фактаровіч з нагоды прысуджэння выдатнаму нямецкаму пісьменніку ў 1952 годзе прэміі «За ўмацаванне міру паміж народамі».*

*Цікава, што побач з І. Бехерам членам рэдкалегіі «Полымя» быў таксама ў свой час Ю. Фучык.*

## ПЕРАД САМАЙ ВАЙНОЙ

*У 1941 годзе часопіс па-ранейшаму называўся «Полымя рэвалюцыі» і выходзіў адзін раз у два месяцы. Галоўным рэдактарам тады быў Міхась Лынькоў. У рэдкалегію ўваходзілі таксама Я. Колас, Я. Купала, М. Клімковіч. Рэдакцыя жыла творчымі планамі, але чытачы змаглі атрымаць толькі трэці нумар, які стаў апошнім перадваенным.*

*Чытаеш яго сёння, і цяжка паверыць, што праз некаторы час пасля выхаду нумара вораг ступаў па Мінску... Матэрыялы нумара расказваюць аб мірнай, стваральнай працы беларускага народа. Часопіс знаёміць чытача з новымі лаўрэатамі Дзяржаўных прэмій СССР Я. Купалам, К. Крапівой, Л. Александроўскай, Г. Глебавым, А. Багатыровым. Змешчаны іх здымкі, а таксама рэдакцыйны артыкул, у якім коратка расказваецца аб творчых дасягненнях гэтых выдатных дзеячоў беларускай культуры.*

*Вершы Я. Купалы, Я. Коласа, апавяданні Цім. Зарэчнага, А. Платнера, навелы Ул. Кандрацені, М. Цялешкі добра дапаўняюць нумар. У крытычным раздзеле — агляд беларускай прозы за 1940 год, а таксама агляд апавяданняў за гэты час. Яго зрабіў М. Клімковіч. Цікавы артыкул В. Кірпоціна пра «Ціхі Дон» Шолахава.*

*Пасля гэтага нумара часопіс ужо не выдаваўся. Ішла вайна... Зброяй і словамі ваявалі і беларускія пісьменнікі.*

## ЯШЧЭ ГРЫМЕЛІ БАІ...

*Пасля вызвалення рэспублікі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў выданне часопіса было аднаўлена. Ен пачаў называцца «Полымя». Вось першы нумар за 1945 год. Галоўны рэдактар—Пятрусь Броўка. Члены рэдкалегіі — П. Глебка, М. Лынькоў, Я. Колас, М. Танк.*

*Адкрываецца нумар пачаткам паэмы Я. Коласа «Адплата». Цікавыя вершы М. Танка, апавяданне Ус. Краўчанкі «Талісман». Па гарачых слядах падзей А. Кучар напісаў драму «Заложнікі», прысвечаную легендарнаму партызанскаму камандзіру, Герою Савецкага Саюза М. Шмырову. Яе і змясціў часопіс.*

*Наогул, у нумары шмат месца адведзена тэме вайны. М. Лупсякоў з рускай мовы пераклаў нарыс Х. Муратава «Герой Савецкага Саюза Барыс Царыкаў» пра воінагамяльчаніна. Змястоўная і рэцэнзія М. Святланіна на апавяданне М. Лынькова, якое выйшла асобнай кнігай.*

*Многія беларускія пісьменнікі ў гэты час яшчэ знаходзіліся на франтах.*

*Цікавае паведамленне ў раздзеле «Хроніка» аб тым, што Дзяржаўнае рэспубліканскае выдавецтва плануе выпуск некалькіх рускіх альманахаў, прысвечаных Вялікай Айчыннай вайне. Быў сабраны першы выпуск. У яго ўвайшлі творы В. Сабліна, К. Цітова, П. Валкадаева і іншых літаратараў. Многія мастацкія творы атрыманы ад байцоў і камандзіраў Савецкай Арміі.*

50 год утварэння СССР

# ЯК БРАТ—БРАТУ

**ГІТЛЕРАУСКАЯ НАВАЛА пакінула на Беларусі жахлівы след — мільёны забітых, разбураныя гарады, спапялёныя вёскі.**

**Замежныя карэспандэнты, якім давялося ў той час пабываць у рэспубліцы, глыбакадумна прарочылі—аднавіць народную гаспадарку беларусам не ўдасца і праз сто гадоў.**

**З вышыні сённяшняга дня гэтыя прароцтвы выклікаюць усмешку. На ўвесь свет вядома Беларусь сваімі прыгожымі гарадамі, сваімі трактарамі і машынамі, тэлевізарамі і станкамі...**

**За ўсім гэтым—тытанічная стваральная праца савецкіх людзей, дружба і ўзаемадапамога народаў-братоў, якія ў цяжкую пару прыйшлі на дапамогу Беларусі.**

**Хочацца яшчэ раз нагадаць месца ў Пастанове ЦК КПСС «Аб падрыхтоўцы да святкавання 50-годдзя ўтварэння СССР», дзе гаворыцца, што сусветная гісторыя яшчэ ніколі не бачыла ва ўзаемаадносінах дзесяткаў нацый і народнасцей такога непарушнага адзінства інтарэсаў і мэт, волі і дзеянняў, такой духоўнай роднасці, даверу і ўзаемных клопатаў, якія пастаянна праяўляюцца ў нашым брацкім саюзе.**

**Сёння мы друкуем нізку архіўных дакументаў, якія расказваюць аб тым, як братнія рэспублікі дапамагалі Беларусі аднаўляць разбураную вайной народную гаспадарку.**

**Дакументы захоўваюцца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве Кастрычніцкай рэвалюцыі і сацыялістычнага будаўніцтва БССР.**

Нізка дакументаў падрыхтавана старшым навуковым супрацоўнікам ЦДАКР І. Дзешкавец.

**З пастановы Савета Народных Камісараў СССР ад 27 снежня 1943 года аб аказанні дапамогі вызваленым ад нямецкай акупацыі раёнам Беларусі і аднаўленні МТС і калгасаў.**

*...Абавязаць Дзяржплан СССР выдзеліць, а Народны камісарыят сярэдняга машынабудавання і Народны камісарыят мінамётнага ўзбраення адгрузіць для МТС вызваленых раёнаў у I квартале 1944 г. 50 новых трактараў і 50 трактарных плугоў і ў II квартале 1944 г. 150 трактараў і 150 трактарных плугоў.*

*Абавязаць Наркамат мінамётнага ўзбраення адгрузіць у I квартале 1944 г. за кошт фондаў Наркамзема СССР 2000 конных плугоў. 200 сарціровак, 100 сенакасілак, 250 акучнікаў і 150 жняярак.*

*Абавязаць Цэнтрасаюз адгрузіць да 1.06.1944 г. для калгасаў Беларускай ССР: кос—40 000 і сярпоў 40 000.*

*Абавязаць Наркамат знешняга гандлю выдзеліць у 1 квартале 1944 г. для МТС і МТМ Беларускай ССР 70 металарэзных станкоў і 60 грузавых аўтамашын.*

●

**З пастановы Савета Народных Камісараў СССР ад 27 снежня 1943 года аб дапамозе Беларускай ССР у аднаўленні народнай гаспадаркі.**

*...Абавязаць Наркамзем СССР, Саўнарком Чувашскай АССР забяспечыць закупку ў парадку дапамогі вызваленым раёнам, і завоз у Беларускую ССР у лютым—красавіку 1944 г. 3 000 галоў рабочых коней з Чувашскай АССР.*

*Абавязаць Наркамат нарыхтовак выдзеліць Наркамзему СССР 550 тон сена для фуражыравання ў дарозе коней, якія завозяцца ў Беларускую ССР з Чувашскай АССР.*

*...Абавязаць Дзяржплан СССР, Наркамат фінансаў СССР і Наркамзем СССР прадугледзець у бюджэце I квартала 1944 г. 39290 тысяч рублёў, у тым ліку на аднаўленчы рамонт трактараў і машын 5 мільёнаў рублёў.*

*...Абавязаць Сельгасбанк СССР выдзеліць на 1944 г. датэрміновы крэдыт для рабочых, спецыялістаў і служачых МТС і МТМ і зямельных органаў Беларускай ССР на індывідуальнае жыллёвае будаўніцтва 7 мільёнаў рублёў.*

●

**Пісьмо старшыні шэфскай камісіі і Маскоўскага ордэна Леніна медыцынскага інстытута прафесара Іванова старшыні Саўнаркома БССР тав. Панамарэнку аб аказанні дапамогі Беларускаму дзяржаўнаму медыцынскаму інстытуту вучэбнымі дапаможнікамі ад 23 лютага 1944 года.**

*З нашых музейных і кафедральных фондаў выдзелена і перададзена Беларускаму медыцынскаму інстытуту ў г. Яраслаўлі вучэбных дапаможнікаў, прэпаратаў, інструментарыя на суму 220 тысяч рублёў. Адбор вучэбных дапаможнікаў і кансультатыўная дапамога для аднаўлення ўказанай медыцынскай вну Беларусі працягваюцца і будуць працягвацца ў Мінску, пасля яго вызвалення ад ворагаў.*

*У музеі анатоміі з 30-х гадоў мінулага стагоддзя захоўваецца унікальны, вельмі каштоўны твор, выкананы па асобым заказе ў Парыжы—разборная мадэль каня ў натуральную велічыню. Гэта мадэль у якасці навуковага і вучэбнага дапаможніка знаходзілася спачатку ў ветэрынарным аддзяленні Віленскага універсітэта, але потым, пасля скасавання гэтага універсітэта, паступіла ў анатамічны музей Маскоўскага універсітэта, заснаванага прафесарам Хрысціянам Лодэрам. Маюцца і іншыя прэпараты і вучэбныя дапаможнікі, якія маглі быць карыснымі ў падрыхтоўцы заатэхнікаў і ветэрынарных урачоў. Пры будучым аднаўленні Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі і Ветэрынарнага інстытута гэтая цудоўная мадэль і іншыя каштоўныя вучэбныя дапаможнікі маглі б аказаць вялікую карысць у падрыхтоўцы кадраў заатэхнікаў і ветэрынарных урачоў, а таму прашу Вашага распараджэння аб аглядзе іх спецыялістам і прыёмцы іх для гэтай мэты.*

●

**Ленінградскія студэнты ўзялі шэфства над педвучылішчамі Беларусі.**

*Студэнты і выкладчыкі Ленінграда ўзялі пастаяннае шэфства над усімі 23 педагагічнымі вучылішчамі рэспублікі. Яны арганізавалі збор кніг, з якіх укамплектавалі бібліятэкі. Гэтыя бібліятэкі ўжо разасланы ва ўсе педвучылішчы Беларусі.*

**Газета «Советская Белоруссия» ад 24 кастрычніка 1944 г.**

●

**Дапамога шэфаў.**

*Працоўныя Ульянаўскай вобласці шэфствуюць над горадам Мозырам. Ульянаўцы аказваюць падшэфнаму гораду штодзённую дапамогу. Нядаўна Мазырскі гарадскі аддзел сацыяльнага забеспячэння атрымаў з Ульянаўска 15 000 рублёў са спецыяльнай мэтай выкарыстаць гэтыя сродкі на выдачу аднаразовай дапамогі інвалідам Айчыннай вайны.*

**Газета «Советская Белоруссия» ад 24 кастрычніка 1944 г.**

●

**Дапамога разана-ўральскіх чыгуначнікаў.**

*Калектыў Разана-ўральскай магістралі шэфствуе над Беларускай чыгункай. Днямі шэфы даставілі ў Гомель трэці эшалон падарункаў. У ім многа рознага абсталявання, мэблі, літаратуры, прадуктаў, жывёлы.*

*У фонд аднаўлення Беларускай магістралі разана-ўральцы ўнеслі больш 1 мільёна рублёў.*

**Газета «Советская Белоруссия» ад 16 лістапада 1944 г.**

●

**Шчырае дзякуй.**

*Чырвоная Армія выгнала ворага з тэрыторыі нашай рэспублікі. З гэтага часу і назаўсёды наша зямля свабодная ад нямецкай погані. У гарадах, раёнах і сёлах адраджаецца жыццё. Разгарнулася карпатлівая праца па аднаўленні фабрык, заводаў, школ, бальніц, калгасаў, машынна-трактарных станцый.*

*У аднаўленні народнай гаспадаркі беларускаму народу неацэнную дапамогу аказвае вялікі рускі народ, працоўныя саюзных і аўтаномных рэспублік. Яны прысылаюць у Беларусь многае з таго, што ў гэты перыяд неабходна для аднаўлення народнай гаспадаркі на вызваленай зямлі.*

*На працягу 10 месяцаў сёлетняга года Галоўнае ўпраўленне забеспячэння пры Саўнаркоме БССР прыняло 487 вагонаў з рознымі грузамі ад працоўных Сібіры, Урала, Горкаўскай і Яраслаўскай абласцей.*

*137 вагонаў з абсталяваннем, інструментамі, будаўнічым матэрыялам, высокаякаснай сталлю, арматурным жалезам і каляровымі металамі прыслалі ў падарунак вызваленым абласцям Беларусі працоўныя Удмурцкай АССР.*

*За кошт матэрыялаў, якія прыбылі ў рэспубліку, Народны Камісарыят мясцовай прамысловасці аднавіў 32 раённыя прамкамбінаты. Вялікая колькасць абсталявання па металаапрацоўцы, якое прыбыло з Усходніх раёнаў краіны, перададзена Гомельскаму ліцейна-механічнаму заводу, а таксама на аднаўленне аўтарамонтнага завода ў Мінску.*

*Частка абсталявання, іструментаў і апаратуры, з ліку прысланых, перададзены Гомельскай электрастанцыі, якая ўжо дае народу электраэнергію.*

*Апрача гэтага, насельніцтву Беларусі, якое найбольш пацярпела ад фашысцкіх вылюдкаў, працоўныя братніх саюзных рэспублік прыслалі звыш 32 тысяч рэчаў хатняга ўжытку: фарфоравы і шкляны посуд, звыш 4,5 тысяч камплектаў гатовага адзення, вялікую колькасць шорна-скураных вырабаў.*

*У кастрычніку працоўныя Мінска атрымалі некалькі вагонаў з падарункамі ад камсамольцаў і моладзі Туркменскай ССР. Разам са сваімі падарункамі патрыёты Туркменіі шлюць свае цёплыя сяброўскія пісьмы.*

*Вось што пішуць камсамольцы і моладзь Ашхабадскага сельскага раёна:*

*«Дарагія равеснікі, партызаны і партызанкі, камсамольцы і моладзь Беларусі! Вы мужна змагаліся з ненавісным ворагам, абаранялі незалежнасць нашай Радзімы. Вы адчулі і перажылі ўсе жахі крывавага фашысцкага тэрору, але не сталі на калені перад іншаземнымі захопнікамі. Цяпер Вы вольныя.*

*Мы шлём Вам разам з нашымі сціплымі падарункамі сваё гарачае прывітанне».*

*Працоўныя Беларусі шчыра дзякуюць вялікаму рускаму народу і ўсім народам братніх рэспублік за велізарную дапамогу ў аднаўленні разбуранай гаспадаркі Беларускай ССР.*

**Газета «Советская Белоруссия» ад 24 лістапада 1944 г.**

●

**Дапамога школам заходніх абласцей Беларусі.**

*Наркамасветы РСФСР рашыў аказаць шырокую дапамогу школам заходніх абласцей Беларускай ССР. Туды накіроўваюцца 60 выкладчыкаў, якія сёлета закончылі педагагічныя і настаўніцкія інстытуты і аспірантуру. Школам Баранавіцкай, Брэсцкай, Гродзенскай, Маладзечанскай і Пінскай абласцей пасылаюцца вучэбна-наглядныя дапаможнікі на 750 тысяч рублёў. Вучпедгізу даручана выдаць і адправіць гэтым школам звыш плана 20 тысяч падручнікаў на рускай мове. Камплектуюцца для заходніх абласцей Беларусі 60 школьных бібліятэк.*

**Газета «Советская Белоруссия» ад 4 сакавіка 1945 г.**

●

**Распараджэнне Савета Народных Камісараў СССР ад 29 сакавіка 1945 года аб дадатковым завозе ў Беларускую ССР насення яравых культур.**

*1. Абавязаць Наркамат нарыхтовак завезці ў Беларускую ССР дадаткова 11 тысяч тон насення яравых зерневых культур, у тым ліку 2 тысячы тон пшаніцы, 6 тысяч тон аўса, 3 тысячы тон ячменю для наступнага абмену з калгасамі рэспублікі на зерне харчовых культур па існуючаму эквіваленту замены.*

*Насенне завезці: з Украінскай ССР 3 тысячы тон ячменю і 4 тысячы тон аўса, са Смаленскай вобласці 2 тысячы тон аўса і з Варонежскай вобласці 2 тысячы тон пшаніцы.*

*2. Абавязаць Наркамат шляхоў зносін забяспечыць да 5 красавіка 1945 г. адгрузку і перавозку да станцыі прызначэння ўказанай у пункце 1 колькасці насення за кошт нормы вагонаў, выдзеленых Наркамату нарыхтовак.*

●

**Падарункі з Удмурціі.**

*Цесная сувязь усталявалася паміж працоўнымі Удмурцкай АССР і працоўнымі г. Барысава. Рабочыя, сяляне, інтэлігенцыя Удмурціі аказваюць братнюю дапамогу вызваленаму беларускаму народу.*

*Нядаўна ў горад Барысаў з Удмурціі прыбыло 10 вагонаў—падарункаў для вызваленага насельніцтва. У вагонах—такарныя станкі, аўтагенныя апараты, абсталяванне для дзіцячага сада на 20 месц, а таксама шмат літаратуры.*

*Сярод прысланых кніг творы У. І. Леніна, Вялікая Савецкая Энцыклапедыя, энцыклапедычныя і палітычныя слоўнікі, камплекты цэнтральных газет.*

*Працоўныя г. Барысава з вялікай удзячнасцю прынялі падарунак удмурцкага народа.*

**Газета «Советская Белоруссия» ад 1 мая 1945 г.**

●

**Кнігі са Свярдлоўска.**

*Цесная дружба ўсталявалася паміж Нараўлянскай раённай бібліятэкай і Свярдлоўскай дзяржаўнай публічнай бібліятэкай імя Бялінскага.*

*Нядаўна раённая бібліятэка атрымала са Свярдлоўска каштоўны падарунак—3 200 кніг мастацкай і палітычнай літаратуры. Сярод прысланых кніг асобныя творы У. І. Леніна, А. С. Пушкіна, А. П. Чэхава, А. М. Горкага, М. Ю. Лермантава, Льва Талстога, Дастаеўскага.*

*Разам з пасылкай свярдлоўцы прыслалі пісьмо. Свярдлоўцы цікавяцца, як аднаўляецца бібліятэка, як яна працуе, у чым мае патрэбу.*

*Работнікі раённай бібліятэкі ў сваім пісьме ў адказ расказалі аб аднаўленчай рабоце ў раёне і цёпла дзякавалі свердлаўчанам за ўвагу і дапамогу.*

**Газета «Советская Белоруссия» ад 8 ліпеня 1945 г.**

●

**Дар беларускаму народу ад Літоўскай ССР.**

*Больш як 20 гадоў у Вільнюсе існаваў Беларускі музей. У музеі захоўвалася да 10 тысяч экспанатаў па гісторыі, этнаграфіі і археалогіі. У веданні музея мелася багатая бібліятэка на рускай і беларускай мовах. Нядаўна Саўнарком Літоўскай ССР перадаў музей і бібліятэку ў падарунак беларускаму народу. Восем тысяч экспанатаў і 36 тысяч кніг, якія складаюць фонд музея, днямі адпраўлены з Вільнюса ў Мінск.*

**Газета «Советская Белоруссия» ад 25 ліпеня 1945 г.**

Валянцін МЫСЛІВЕЦ

# СТАНАЎЛЕННЕ

НАРЫС

## 2. РАМОНТНЫ

Незвычайны, турботна-цяжкі ў жыцці Віктара Талюка быў той дзень, калі ён, выдатны спецыяліст па рамонту нестандартнага абсталявання, уваходзіў у новую для сябе ролю майстра рамонтна-механічнага цэха.

Раніцай, ужо, можна сказаць, з дзвярэй ён ціха, як між іншым, паведаміў жонцы Ніне аб сваім новым прызначэнні. Каб сказаць, што яна вельмі здзівілася—дык не. Успрыняла як належыць, сур'ёзна, можа толькі крышачку больш было разважлівасці ў яе словах... Маўляў, калі ўжо тую школу майстроў скончыў на «Гомсельмашы», ці многа ў галаве засталося?

Віктар запярэчыў:

— Спатрэбіцца — буду яшчэ вучыцца... Начальства просіць... Кажуць: чалавек ты разважлівы, рабочыя цябе паважаюць, вунь і ў народныя засядацелі абралі, і старшынёй цэхкома... А што да ведаў, дык і дзесяцігодка, і школа майстроў за плячыма... Вось і пагадзіўся.

Але жонка стаяла на сваім:

— Няўжо, Віця, тэхнікаў і інжынераў у вас не хапае? Памятаю, калі на «Гомсельмашы» яшчэ працавала свідравальшчыцай—штогод з дыпломамі прыязджалі хлопцы...

— Прыраўняла «Гомсельмаш» да «Цэнтраліта»! Там накіраваных з навучальных устаноў адразу забяспечвалі жыллём... Вось і ехалі. У нас з гэтым—горш. Таму і загвоздка пакуль з кадрамі.

Але пераканаць у чым-небудзь жанчыну не так лёгка.

— Ты ж, Віця, старшыня цэхкома. Дабівайся, каб будавалі больш!

Во, бачылі, якое патрабаванне адразу? Паспрабуй з ёй згаварыцца... Тым больш, што адчувае Віктар і нейкую справядлівасць у Ніных меркаваннях.

— Лёгка сказаць—дабівайся... Зацягнулася ўзвядзенне магутнасцей у нас... Ведаеш жа, што толькі цэх буйнога ліцця працуе. І то з перабоямі. А павінны былі выплавіць сёлета дзевяноста тысяч тон ліцця! Адсталі... Разумееш? А мяне ты ўжо не адгаворыш, не старайся,—усміхнуўся Віктар.—Даў згоду і буду майстрам. Мы з хлопцамі яшчэ дакажам, чаго варта старая гвардыя!

— Знайшоўся стары мне,—жартаўліва махнула рукою жонка. — Сорак год чалавеку...

У гэтых словах, у тоне, якім яны былі сказаны, было якраз тое, чаго чакаў ён ад жонкі: адабрэння, згоды.

У тралейбусе Віктар сустрэў свайго сябра па «Гомсельмашу» Васіля Раманенку. Шчыра, адкрыта разгаварыліся. Ну, Талюк, вядома, сказаў аб сваім прызначэнні ў майстры. Васіль раптам змоўк, паглядзеў яму ў вочы, сказаў на выхадзе:

— Шчаслівы ты, Віктар, чалавек! Ад нас пайшоў брыгадзірам. Цяпер выбіўся ў майстры...

— Прызначылі, Васіль.

Раманенка не слухаў яго: махнуў па-сяброўску рукою на развітанне, выйшаў з тралейбуса, хутка згубіўся ў віхурна-таропкім, не вельмі гаманкім ранішнім натоўпе: рабочы народ спяшаўся на працу.

Астатак шляху, у тралейбусе і пяшком да прахадной, Віктар быў задуменны. Ён раптам адчуў, як нейкая заклапочанасць усё больш ахоплівае яго. Што гэта, думкі пра новую пасаду, пра тыя цяжкасці, якія, безумоўна, напаткаюць яго ў працы? Або, нечакана ўзнікшае пачуццё незвычайнай адказнасці? І адсюль — такі настрой, нібы ён вось-вось павінен даваць некаму справаздачу пра ўсё сваё жыццё...

І ўсё думаў, усё ўспамінаў да дробязей—дарогу з ранняга, незабыўнага, казачнага дзяцінства ў сталасць, да гэтага простага чалавечага шчасця, якому шчыра пазайздросціў Раманенка.

Зноў, як сотні тысяч разоў за апошнія гады, прыгадалася родная вёска Гноева, што ў Хойніцкім раёне, ціхая, павольная, у нізкіх балоціста-хмызаватых берагах рэчка Віць. Колькі радасці падлетку — гойсай на шырокім калгасным полі, днямі не вылазь з вады, удыхай водар красак і траў на духмяна-дурманлівай капе сена, дзе-небудзь у завоіне, каб асабліва не бачылі старэйшыя...

У школе клопатаў крыху прыбавілася. Ды няўрымслівага, кемлівага юнака яны не абцяжарвалі. Шчасце паўсядзённых адкрыццяў, не адчутага і не зведанага дагэтуль распаліла ў Віктара Талюка бязмежная любоў да кнігі.

І хто яго ведае, як бы склаўся лёс чалавека, калі б не вайна — грымотная, лютая, Вялікая Айчынная... Вёску захапілі фашысты. Віктара Талюка заняволілі адразу — узялі ў абоз. Разам з іншымі аднавяскоўцамі не адзін месяц вымушан быў цягнуцца за гітлераўцамі... Нагледзеўся ўсякага, нацярпеўся ад чужынцаў знявагі. Аднойчы не вытрымаў, кінуў усё і цёмнай ноччу сігануў дадому.

Шмат неспакойных, чорных дзён перажыў Віктар пры акупантах. Ды ці толькі ён адзін? Усім хапіла гора. З радасцю вызвалення прыйшлі да яго, як да тысяч і тысяч юнакоў і дзяўчат нашай краіны, новыя клопаты. Цяжкая пара выбару: школа ці работа?

Па гадах, вядома, можна было вучыцца. Непапраўна-хваравіты з вайны бацька гаварыў пра гэта, настойваў, і маці наказвала ісці ў школу.

Але ж наўкола — руіны і папялішчы... Рэспубліка ў рыштаваннях. Партыя клікала энтузіястаў, людзей неспакойнага сэрца на новабудоўлі, на заводы і фабрыкі. Многія паехалі з вёскі. Віктар Талюк таксама пакінуў родны дом, паступіў у школу фабрычна-заводскага навучання пры «Гомсельмашы», скончыў, слясарыў там да пяцідзесятага года — да прызыву на службу ў Савецкую Армію.

Шквалістыя вятры, снежныя бураны, траскучыя сібірскія маразы — нішто не замінала салдату верна служыць Айчыне, пільна берагчы свой край. Незаўважна прабеглі, мінуліся гады нялёгкай салдацкай службы. Вярнуўся ў Гомель, на свой завод, у рамонтна-механічны цэх, дзе працаваў да службы. Зноў слясарыў. Без адрыву ад вытворчасці закончыў дзесяцігодку, школу майстроў.

Але ж такі ўжо, мусіць, неспакойны характар склаўся ў хлопца: прагне новага... Не, не непаседлівы ён, хутчэй — няўрымслівы. Вось так і прывяла яго сцяжынка на «Цэнтраліт». Сам устанаўліваў станкі, абсталяванне, пускаў першую вагранку. Ударна працаваў брыгадзірам, слясарыў у рамонтна-механічным цэху. Ды хіба ўсё перакажаш? За ўмельства, старанднасць і ўзнагародзілі яго ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга... І вось раптам зноў няспадзяванка — прызначэнне ў майстры!

Падышоў Віктар Талюк да цэха, прыпыніўся ля ўваходу. З чаго, як пачаць рабочы дзень? Людзі ў змене добра ведаюць сваю справу, вядома, кадравыя рабочыя. Трэба заслужыць іх давер. Вунь брыгадзір слесараў Васіль Іваненка нават тэхнікум закончыў, можа і яму, майстру-навічку, падказаць, калі што якое. У Васіля Рожына, другога брыгадзіра, таксама шматгадовы вопыт. Вось толькі Саша Касмачоў — малады электразваршчык... Дык жа побач з ім працуе Уладзімір Філоненка, неблагі спецыяліст, зычлівы таварыш — не пакіне ў бядзе. Перабраў так у памяці людзей — усе, быццам, на сваіх месцах.

Тады чаму ж пры былым майстру нярэдка рамонтнікі не спраўляліся з заданнем, вымушаны былі заставацца яшчэ пасля змены, а то і ў выхадныя дні прыхопліваць? Якімі абставінамі вымагалася гэткае? Ці ўзяць тыя ж перастаноўкі... Зранку пачынаюць адно, апоўдні перакідваюць на другі аб'ект. Як нервавала яго самога такая валтузня! Для нармальнай, высокапрадукцыйнай і якаснай працы, ведае Талюк яшчэ па «Гомсельмашы», трэба наладзіць рытмічнасць. Але ж як таго дабіцца на практыцы, каб кожны рабочы прыносіў найбольшую карысць і прадпрыемству, і сабе?

А можа пачаць яму з самага галоўнага? З дысцыпліны? Позняцца ж людзі на работу. Перад абедам, як кажуць, зрываюцца некаторыя раней часу. Не тояць сваіх намераў—бягуць у буфет піва піць. Нічога, быццам, і сказаць нельга—не гарэлка, маўляў. Але ж некаторых так падводзіць гэта піва, што ледзьве шафу з інструментам знаходзяць. І калі такое часам заўважаюць майстры—абыходзяць міма, брыгадзіры — стараюцца схаваць п'яніцу ў цямнейшы куток, выгарадзіць назаўтра ад пакарання.

З Арнольдам Петрусёвым, праўда, шмат валаводзіліся ў цэху, перадалі былі справу ў заўком. І звольнілі з завода. Але гэта ўжо пасля таго, як разгневаная, у слязах жонка прыйшла ў дырэкцыю са скаргай: дамоў грошай ні капейкі Арнольд не прыносіць, не дае спакою сям'і... Звольнілі Петрусёва і забыліся. Дзе ён, што робіць —ніхто цяпер не ведае. Ці справядліва гэта? Так і яшчэ каго можна звольніць—менш клопату...

Пачакай, ловіць сябе Віктар Талюк на думцы, а што ён ведае пра сваіх хлопцаў з былой брыгады, не кажучы пра ўсю змену? Чым яны займаюцца пасля работы? Як жывуць у сям'і? Як выхоўваюць дзяцей? Вось тут і ёсць над чым задумацца.

Сам жа ён круглыя суткі заняты на заводзе. Хапае працы яшчэ і як старшыні цэхкома. А вось за вучобай дачкі Святланы, як пайшла ў школу, увесь час сачыў, каб не адстала... Цяпер Саша першакласнік—праграма насычаная, трэба і яго з-пад кантролю не выпускаць... Значыць, справа не ў занятасці. Не ў адной ёй. І адчувае Талюк, што не мае права ён не цікавіцца жыццём сваіх паплечнікаў у працы. Цяпер—асабліва...

Тупае Віктар перад уваходам у цэх, вітаецца з людзьмі, што прабягаюць міма, спяшаюцца. І ўсё новыя і новыя думкі з'яўляюцца ў яго—як дабіцца лепшага становішча ў калектыве? Правільна прыкмеціў адзін стары рабочы—нельга дбаць пра шчасную будучыню прадпрыемства без маладых, высокакваліфікаваных спецыялістаў, без змены. А ў рамонтна-механічным—не вельмі моладзі... Параіцца трэба будзе з начальствам, каб хоць колькі вучняў узяць у цэх...

Нясмела, як першы раз у хату, пераступае, нарэшце, Віктар Талюк парог даўно абжытага роднага рамонтна-механічнага цэха. Зноў спыняецца, праглядае ўсё. Трошкі шчыміць сэрца — яго былое рабочае месца пакуль пустуе... Людзі шчыруюць ля апок, зварачных апаратаў, варштатаў, а тут — няма чалавека.

Ну што ж, не трэба маркоціцца асабліва, ён будзе, той малады рабочы, ён падменіць яго... І — верыць Віктар — не падвядзе, не пасароміць калектыў.

Вяртае з думак майстра настойлівы позірк Валодзі Філоненкі... Неяк загадкава ўсміхаецца хлопец, недвухсэнсоўна зіркае ў столь. А-а, зразумела: хоча і новаму майстру нагадаць, што светлавых ліхтароў няма на перакрыццях, што да гэтага часу адсутнічае выцяжная вентыляцыя...

Ну, вось, ён і ўваходзіць у ролю майстра — зараз падыдзе і выслухае рабочага. Выслухае і зробіць усё, каб заўвагі былі рэалізаваны як мага хутчэй. І ўвогуле ён будзе цяпер нават больш, чым раней рабіць у цэху... Нельга інакш: яму — даверылі!

І не толькі ён, Віктар Талюк, кожны рабочы павінен унесці свой асабісты ўклад у асваенне магутнасцей новага завода.

...З таго памятнага дня мінуліся тыдні, месяцы. Шмат уласных намаганняў, ведаў аддае Віктар Талюк асваенню «Цэнтраліта». Ён, як і яго сябры, выразна бачыць тую перспектыву, да якой штодзень імкнецца, набліжаецца завод... І гэтая вера ў поспех саграе яго, натхняе ў нялёгкім шляху пошукаў, не такіх, магчыма, ужо і частых творчых знаходак, але якія так неабходны прадпрыемству, усяму калектыву.

Пачатак у № 48.

Працяг у наступным нумары.

ПА ВЫСТАВАЧНЫХ ЗАЛАХ

# АДЗІНСТВА ЗМЕСТУ, ВОБРАЗАЎ І ФОРМЫ...

Графічная серыя як форма адлюстравання рэчаіснасці вызначае сваю спецыфіку. Перш за ўсё яна павінна мець адзіны вобразны лад, адзіны ўнутраны змест, адзіны выяўленчы прынцып пабудовы, у аснове якога часцей за ўсё ляжаць розныя варыяцыі пэўнай тэмы. Адпаведна гэтаму мастак выбірае і неабходную графічную тэхніку для больш поўнага вырашэння тэмы, для больш вобразнага яе ўвасаблення.

Як паказваюць многія графічныя серыі на рэспубліканскай мастацкай выстаўцы «СССР — наша Радзіма» — гэта задача даволі складаная.

У раздзеле графікі на выстаўцы вялікае месца займаюць серыі, створаныя ў тэхніцы лінагравюры. Адразу адзначым, што большасць з іх сведчыць аб уменні аўтараў знайсці найбольш праўдзівы характар штрыху, правільныя суадносіны белых і чорных пласкасцей.

Серыя М. Макаранкі «Вілія—Мінск-канал», якая складаецца з трох аркушаў, вабіць перш за ўсё тым, што мастаку ўдалося не патануць у багацці ўражанняў, не прагледзець, захапіўшыся знешняй дакладнасцю, галоўнага—працоўнага натхнення людзей, ажыццяўлення іх грандыёзных задум. Усе аркушы будуюцца на правільна знойдзеным супастаўленні шырокіх і дробных плямаў, якія сустракаюцца і перакрыжоўваюцца, прымушаюць адчуць напружаны рытм будаўніцтва.

У кожным аркушы — пульс жыцця, пульс часу. У гэтых работах няма дробязей, у іх усё падкрэслівае або напружаны характар пэўнага дзеяння, або глыбіню і шырыню той прасторы, дзе мы ўжо бачым не асобнае, прыватнае, а агульнае.

Крыху па іншаму прынцыпу пабудавана серыя лінагравюр А. Лось «Людзі на Прыпяці». На першым плане ў абодвух аркушах галоўныя героі — людзі Палесся. У першым аркушы — «Бабуля і ўнукі», дзе назіраецца перавага чорнага колеру. Гэта дазволіла падкрэсліць пэўную інтымную, крыху трывожную атмасферу, стварыць фон, на якім унутраны стан характараў паказаны больш рэльефна. Мудрая добразычлівасць пажылай жанчыны, упэўненасць і сіла маладога чалавека, непасрэднасць і задуменнасць дзяцінства...

Другі аркуш—«Ганаровы калгаснік Цімафей Бялько», больш аптымістычны, жыццярадасны. Прыўзняты настрой героя падкрэслены больш тонкімі лініямі, багаццем светлых плямаў.

Серыя лінагравюр Ю. Тышкевіча «Якуб Колас» прадстаўлена чатырма невялікімі, але вельмі ёмкімі па зместу аркушамі. Гэтыя работы па тэхніцы нагадваюць ксілаграфіі. Яны перадаюць чалавечны характар коласаўскай творчасці.

Першыя тры аркушы расказваюць пра дом пісьменніка, пра коласаўскія мясціны, пра людзей дужых і прыгожых —такіх, аб якіх любіў пісаць паэт. Характэрнасць гэтых трох лінагравюр перш за ўсё ў народнасці, у песеннасці іх ладу, у выключна тонкім выкарыстанні мастацкага багацця нюансаў чорнага і белага ў спалучэнні з зеленаватым або жоўтым, у дзіўоснай пластычнасці тонкіх штрыхоў.

Серыя лінагравюр І. Капяляна «Бурштыннае мора» прадстаўлена двума аркушамі. Вялізныя партальныя краны («Партальныя краны») быццам ухапіліся за зямлю. Высокія, груваслкія — яны запаўняюць амаль усю прастору аркуша сваімі цёмна-сінімі масамі. Невялікія постаці людзей, ажурныя збудаванні на заднім плане, лёгкасць марскіх хваляў толькі падкрэсліваюць манументальнасць кранаў. Магчымасці лінагравюры тут выкарыстаны вельмі трапна

Менш удалы другі аркуш серыі — «Брыганціна». Увесь ён нібы сатканы з белых ажурных ліній — снасцей вялікага парусніка, яго корпуса, лёгкага марскога зыбу, высокіх воблакаў. Але менавіта гэтая ажурнасць «вырывае» аркуш з агульнага шэрагу серыі, робіць яго чужародным у ёй. І марская эмблема ў верхнім кутку аркуша, і палоска сцягоў розных краін, выцягнутая паралельна ніжняму яго краю, пазбаўляюць гэты аркуш той цэласнасці і пераканаўчасці, характэрнай для першага.

А вось серыя лінагравюр У. Садзіна «Паўночныя матывы». Мастаку, у цэлым, удалося перадаць рытмы Поўначы, адчуванне злітнасці чалавека з прыродай, непаўторны дух жыцця далёкага Запаляр'я.

У гэтых аркушах прыцягвае ўвагу вельмі тонкая танальнасць, пластычнасць ліній, рытмы контураў і тая маляўнічасць, якой мастак змог дасягнуць, маючы ў сваім арсенале толькі белы і чорны колер.

Поўны велічнасці і ўрачыстасці аркуш «На промысел». Ён пабудаваны на строгіх лініях далёкіх заснуўшых гор, люстры возера. Асаблівая сканцэнтраванасць адчуваецца ва ўпэўненай постаці паляўнічага, які ідзе на аленя. Сапраўдная суровасць Поўначы пранізвае гэты аркуш.

Другая работа — «Паўночная казка» — уся напоўнена рухам. Рытм выгнутых ліній перадае прыгажосць аленяў, якія быццам ляцяць над снегам; лёгкасць птушак, якія імкнуцца да рассыпаных у агатава-чорным небе зорак. Сапраўды нешта казачнае, чароўнае...

Р. БАДЗІН.

# «БРЭСЦКАЯ КРЭПАСЦЬ», 700-ы СПЕКТАКЛЬ



Фота П. ЛАЎРУСІКА.

Сёння — спектакль «Брэсцкая крэпасць»... Гэтыя словы часта можна прачытаць на афішы Брэсцкага драматычнага тэатра імя Ленінскага камсамола Беларусі. Старажылам горада яны добра знаёмыя. Упершыню іх можна было прачытаць у сакавіку 1953 года...

Сёння, як і дваццаць гадоў назад, ідзе «Брэсцкая крэпасць». Ідзе ў 700-ы раз! Такі юбілей — з першых у гісторыі беларускага тэатра. П'еса драматурга К. Губарэвіча, пастаўленая рэжысёрам А. Міронскім, стала тым запаветным для калектыву творам, без якога нельга цяпер уявіць сабе мастацкае аблічча тэатра ў Брэсце.

Сёлета, у час гастроляў па Украіне, «Брэсцкую крэпасць» глядзелі жыхары Цярнопаля. Глядзелі з гарачаю цікавасцю, ганарыліся героямі спектакля, як сваімі блізкімі. І гэта зразумела. Легендарную цытадэль абаранялі рускія і ўкраінцы, беларусы і армяне, сыны многіх народаў нашай краіны. Мабыць, гэта тое галоўнае, што робіць эпапею зразумелай жыхарам Мінска і Масквы (спектакль ішоў і на сцэне Крамлёўскага тэатра), Кіева і Харкава, Львова і Данбаса, маракам Балтыкі... Яна хвалявала нашых сяброў з Люблінскага і Беластоцкага ваяводстваў...

У 1967 годзе «Брэсцкая крэпасць» была адзначана высокай узнагародай—прэміяй Усесаюзнага Ленінскага камсамола.

У тым, што спектакль амаль два дзесяцігоддзі складае залатую аснову рэпертуару тэатра, — заслуга галоўнага рэжысёра, народнага артыста БССР Г. Волкава, які, дарэчы, быў і першым выканаўцам ролі Малышава. Спектакль стаў вялікай творчай школай для многіх артыстаў, узбагаціў іх мастацкае жыццё.

Працуючы над узнаўленнем спектакля рэжысёр імкнуўся папоўніць «Брэсцкую крэпасць» навізной думак, пачуццяў, свежасцю ўспрыняцця тых надзвычай складаных падзей ваеннай пары. На змену старэйшым артыстам прыйшлі маладыя, і «ветэраны» сталі іх дарадчыкамі, перадавалі ім вопыт. Гэта дало добры плён: «Брэсцкая крэпасць» загучала па-маладому палымяна. З першых выканаўцаў застаўся Ю. Уласаў (раней Саша Пінчук), якому «прысвоена» новае званне—ён палкоўнік Ермашоў, а ролю Сашы Пінчука выконвае артыст В. Кастальцаў. І. Мацкевіч—камісар Калеснікаў, Ю. Газіеў — баец Кукушкін, Т. Валчэцкая — разведчыца Даша, Т. Волкава — ваенурач Зорына...

Ці ўсё засталося ў спектаклі нязменным, акрамя выканаўцаў? Не. Пастаноўшчык імкнуўся да таго, каб, не парушаючы агульнай стылістыкі твора К. Губарэвіча, наблізіць яго да сучаснасці.

...700-ы спектакль... Маладыя артысты трымалі надзвычай цяжкі і адказны экзамен. Яны не маглі не ўлічваць, што ў зале знаходзіліся былыя воіны і партызаны, супрацоўнікі музея Мемарыяльнага комплексу «Брэсцкая крэпасць-герой», тыя, хто сам прайшоў праз ваеннае ліхалецце, хто добра ведае гісторыю горада над Бугам.

Сярод былых воінаў і партызан, што падняліся на сцэну, каб павіншаваць юбіляраў, быў пажылы чалавек, які ўсім сэрцам хацеў выступіць, сказаць нешта надзвычай цёплае, але не змог. У яго вачах стаялі слёзы, ён паціскаў рукі акцёрам і ціха гаварыў: «Дзякую, дзякую, сябры!..» Гэта быў самы дарагі госць — Р. С. Макараў, былы ўдзельнік абароны крэпасці.

— Я многа разоў глядзеў гэты спектакль,—гаварыў Рыгор Сяргеевіч,— і кожны раз мне робіцца балюча, цяжка... Відаць, таму, што спектакль праўдзівы. Паглядзеўшы яго, я нібы трапляю ў гарачыню чэрвеня 1941... Нібы зноў грымяць выбухі, стрэлы... Я зноў перажываю смерць баявых таварышаў або разам з артыстамі іду ў атаку...

Спектакль «Брэсцкая крэпасць» жыве, па-ранейшаму хвалюе гледачоў.

**Рыгор БАКІЕВІЧ.**

---

АКНО Ў ТВОРЧУЮ ЛАБАРАТОРЫЮ

**Ц. СЯРГЕЙЧЫК,**
народны артыст БССР

# ГЭТЫ НЕВЫЧЭРПНЫ АСТРОЎСКІ...

Агульнавядомая ісціна — акцёр павінен «любіць» таго драматурга, п'еса якога іграецца на сцэне сёння, тую ролю, што даручана табе ў гэтым спектаклі. І ўсё ж у кожнага з нас ёсць запаветны аўтар. Адны «замахваюцца» на герояў Шэкспіра, другія «расшыфроўваюць» той ці іншы вобраз з драм Горкага або камедый Гогаля, трэція «прымяраюць» партрэтны грым персанажа Купалы або Коласа... Але наўрад ці я памылюся, сказаўшы, што артысты славянскіх сцэн вельмі любяць іграць п'есы выдатнага знаўца жыцця колішняй Расіі — і сталічнай, і правінцыяльнай — Аляксандра Мікалаевіча Астроўскага. Недзе я прачытаў аднойчы словы: «Гэты невычэрпны Астроўскі...» — і яны прыйшліся мне да спадобы. Правільна! Каго толькі мы ні сустракаем у яго драмах і камедыях: купцы і памешчыкі, акцёры і чыноўнікі, шулеры і ліхвяры, зацятыя бурбоны і балбатлівыя лібералы, плеткары і высакародныя рыцары... Возьмеш тэкст ролі — і адразу здагадваешся, што будзе ўдзячны драматургічны матэрыял для паглыблення ў душу складаную, самабытную, па-свойму апантаную імкненнем да шчасця.

**Беларуская сцэна дала не адзін прыклад арыгінальнага творчага «прачытання» твораў А. Астроўскага. Купалаўцы і коласаўцы некаторыя спектаклі па яго п'есах ігралі па 100, па 200 разоў. Звярніце ўвагу на сённяшнія нашы афішы — у Мінску беларускія артысты даюць «Апошнюю ахвяру» і «Без віны вінаватыя», мы у Віцебску ставім «Багну». Цяпер грамадскасць рыхтуецца адзначыць яркую дату ў гісторыі драматычнай літаратуры і тэатра — спаўняецца сто пяцьдзесят гадоў з дня нараджэння А. Астроўскага. І, зразумела, кожны з нас, каму пашчасціла далучыцца да хараства яго твораў і вобразаў, прыгадвае тыя незабыўныя старонкі жыцця.**

**Мне давялося іграць ролі, напісаныя гэтым драматургам, і заўсёды гэта было для мяне свята. Так, спачатку — праца, часамі пакутлівая, складаная, нервовая. Ды затое пасля таго, як ты адчуеш, што нешта ў цябе «атрымалася», што вобраз, які ты шукаў разам з рэжысурай на рэпетыцыях, «праявіўся» на сцэне — на сэрцы радасць. «Лес» у пастаноўцы тэатра імя Я Коласа з такіх спектакляў...**

У канцы 50-х гадоў рэжысёр А. Яфрэмаў аднавіў «Лес» у новай рэдакцыі. Здавалася, што даволі спрактыкаваныя выканаўцы роляў і вопытны пастаноўшчык, звяртаючыся не ў першы раз да такой вядомай п'есы, не сустрэнуць ніякіх цяжкасцей. Але... Скажам, Ул. Немировіч-Данчанка з вялікай трывогай адзначаў некалі дзіўную з'яву: «Лес» іграўся (і нават адмысловымі майстрамі сцэны) «нейкай французскай лёгкай камедыяй», вадэвілем, фарсам. Чаму такое часам здаралася?

Бо класіка наогул тоіць у сабе значныя цяжкасці: нас аддзяляюць ад яе час, стосы крытычнай літаратуры і розныя даследаванні, трывалыя, а то і застарэлыя традыцыі выканання роляў і трактоўкі п'ес... Выкарыстоўваючы набытыя веды, вывучаючы дадаткова вялікую колькасць дапаможных матэрыялаў аб той ці іншай класічнай ролі, акцёр, бывае, трапляе ў палон чужых думак, губляе сваё ўспрыманне. Пачынае глядзець на ролю не сваімі вачамі, а дзесяткамі чужых вачэй, шмат што перабольшвае і многае недаацэньвае ў ёй. Ён міжвольна адмаўляецца ад уласнага разумення, бачання, прыстасоўваецца да чужых думак і, такім чынам, абязлічвае сябе як творцу.

Можна падумаць, што я адмоўна стаўлюся да вывучэння дапаможных матэрыялаў і набыцця ведаў? Ні ў якім разе! На маю думку, акцёру для авалодання любой класічнай роляй шмат што патрэбна і вывучаць, і ведаць, а вось карыстацца варта толькі самым неабходным, істотным. Тут вялікае значэнне маюць ідэйна мэтанакіраваныя пошукі, строгі адбор і шырокія абагульненні.

Жыццё, вучоба і сцэнічны вопыт дапамаглі мне своечасова зразумець, што ў класічных п'есах неабходна дабірацца да глыбіні той эпохі, у якую яны створаны і якую адлюстроўваюць. Імкнуцца ўбачыць іхні — такі далёкі ад нас, а для іх «сённяшні» дзень, увайсці ў яго, каб з пазіцыі сучаснасці, а гэта перш за ўсё азначае з пазіцыі партыйнасці, знаходзіць у мінулым, адлюстраваным у п'есе, ідэйна-мастацкую ісціну.

**Так я падыходзіў і да вывучэння ролі Васьмібратава, якую даўно марыў сыграць і таму ўпотай працаваў над ёю. У маім уяўленні ўжо «маячыў» вобраз ляснога драпежніка з мёртвай хваткай звяругі. Хацелася раскрыць перад нашым гледачом «цёмнае царства» дрымучага лесу Астроўскага, паказаць звярыную сутнасць яго насельнікаў. Я толькі баяўся, што не знайду агульнай мовы з новым рэжысёрам. На шчасце, боязь была заўчаснай: Яфрэмаў цалкам ухваліў маю трактоўку ролі. Удумлівы даследчык, знаўца творчасці Астроўскага, здольны рэжысёр-педагог, Андрэй Андрэевіч дапамог мне ў часе работы над роляй поўнасцю ажыццявіць сваю задуму. У мяне захавалася некалькі пажоўклых старонак з дзённіка. Вось што я пісаў тады аб рабоце над вобразам Васьмібратава...**

...Перачытваю п'есу, тэкст сваёй ролі — Васьмібратава, літаральна ўгрызаюся ў яго думкі і ўчынкі. Не, не купца трэба іграць. К чорту і побыт, як такі — самамэтны! Васьмібратаў высочвае доўга, упарта і цярпліва сваю ахвяру. Кружыць, звужае круг і наносіць удар раптоўна і пэўна.

Усё, што бачыў і перажыў у жыцці, уваскрэсла ў маёй памяці. Заплюшчыш вочы — і паўстаюць сотні нахабных, сквапных, самазадаволеных і бязлітасных істот. Кулакі-жывадзёры, гандляры, спекулянты самі просяцца ўвасобіць іх на сцэне.

Абставіны ролі і жыццёвы вопыт зліліся ў адно. У маім уяўленні гэткая нікчэмная, лысаватая, крываногая фігура ў бліскучых лакіраваных ботах, з рэдкімі космамі рыжаватай бародкі, доўгай тонкай шыяй, украдлівай хадой: нібы праз пні перастýпае — толькі б не зачапіцца — асцярожная, ялейная і ласкавая. Усё разлічана на шчырае юродства, камедыянцтва. Вочы прыжмураныя—ад іх ніхто не ўцячэ — усё бачаць, усё прыкмячаюць і адначасова баяцца сябе выдаць. Рука часта гладзіць шыю, пад барадою. У Васьмібратава чырвоны мясісты нос; ён хварэе запоем, але самая п'янкая гарэлка для яго — грошы. Залатым запоем апанаваны ён, і дзеля грошай гатоў абрабаваць, растаптаць, зарэзаць каго хочаш. Грошы — усё!



Сцэна са спектакля «Лес». У ролі Гурмыжскай народная артыстка БССР А. Радзялоўская, Васьмібратава — аўтар артыкула Ц. Сяргейчык.

## НОВЫЯ НАЗВЫ НА АФІШАХ



**Дзяржаўны Рускі тэатр БССР імя М. Горкага паказаў прэм'еру-спектакль «Птушкі нашай маладосці» па п'есе малдаўскага драматурга І. Друцэ. Паставіў спектакль — Ю. Міраненка, мастацкае афармленне заслужанага дзеяча мастацтваў Казахскай ССР В. Галубовіча.**

**На здымку — сцэна са спектакля.**

Фота Ул. КРУКА.

---

Пакрысе выявіліся галоўныя, ударныя месцы ў ролі. Гэта, папершае, нейкае ашалелае юродства. Бог — мой хаўруснік, думае Васьмібратаў, з ім расплачуся ахвяраваннем на царкву, і ён мне ўсё даруе. Адсюль — рабаванне з імем бога на вуснах. Па-другое, без грошай Васьмібратаў нібы без адзення. Смаржок, казяўка, а не чалавек, агаляецца ўся яго нікчэмнасць...

Так нарадзілася маё бачанне вобраза, так я яго і ўвасабіў на сцэне і, мне здаецца, па-новаму. Аб гэтым гаварылі шмат хто з гледачоў.

**На жаль, спектакль «Лес» не быў даведзены рэжысёрам А. Яфрэмавым да канца. Тэатр па тэхнічных прычынах парушыў дагаворны тэрмін выпуску прэм'еры, і ён не мог больш заставацца ў Віцебску. Генеральныя рэпетыцыі і выпуск спектакля тэатр правёў без рэжысёра-пастаноўшчыка.**

**Не зважаючы на такі рэдкі ў нашай практыцы выпадак, прэм'ера мела поспех. Вядома, ён у першую чаргу быў абумоўлены наяўнасцю такіх выканаўцаў, як А. Ільінскі (Шчасліўцаў), М. Звездачотаў (Нешчасліўцаў), А. Радзялоўская (Гурмыжская), Я. Глебаўская (Уліта), Ф. Шмакаў (Пётр) і А. Трус (Карп). Спрыяла поспеху і мастацкае афармленне спектакля, створанае Я. Каваленкам.**

«Гэты невычэрпны Астроўскі...» Мабыць, не вялікі грэх бяру я на душу, калі цяпер гавару, што ў «Лесе» раскрыліся нейкія нечаканыя рысы артыста-віртуоза Аляксандра Ільінскага, што для М. Звездачотава і А. Радзялоўскай іх ролі адкрылі магчымасць намаляваць маштабныя характары, што Я. Глебаўская стварыла завершаны востра сатырычны партрэт, які стаў адным з лепшых у галерэі яе сцэнічных персанажаў. Хай сабе ніхто з нас тады ўголас не выказваў думку пра ўнутранае творчае ўзбагачэнне, але яно было. Недзе глыбока ў сэрцы варушылася штосьці такое, нібы табе хочацца падзякаваць драматургу за асалоду, якую ён падарыў табе, напісаўшы такую п'есу і такія ролі. У спектаклі коласаўцаў была і рамантыка, і жорсткі «лес», бязлітасны да сумленных і высакародных натур. Не апошняй фігурай у тым «лесе» быў і драпежны Васьмібратаў. Ніколі яго не забуду... І з'яўляецца гарэзлівая думка: а што б сказаў Астроўскі, калі б раптам пабачыў цябе на сцэне?.. І страшнавата робіцца.

Віцебск.

---

# «ТЭЙМУРАЗ, ТАБЕ ПАШЧАСЦІЦЬ У ЖЫЦЦІ!»

**«НЕ ТРЫВОЖСЯ, МАМА!..» Н. ДУМБАДЗЕ Ў ГОМЕЛЬСКІМ АБЛАСНЫМ ТЭАТРЫ**

Гэты няўрымслівы, вясёлы і дасціпны хлопец—яго завуць Тэмо—ужо радуе і захапляе гледачоў самых розных тэатраў: ад Тбілісі да Мурманска, ад Віцебска да Гомеля. Ён адсунуў на другі план розных стыляг, празмерна схільных да рэфлексій персанажаў, «крытыканаў» з барадамі і смела вырваўся на авансцэну, каб падзяліцца з намі сваім адчуваннем хараства і напружанага рытму сучаснага жыцця, каб на ўвесь голас сказаць, як ён і юнакі яго пакалення шануюць здабыткі бацькоў—рэвалюцыянераў і будаўнікоў, салдат Вялікай Айчыннай,—і даць прысягу на вернасць свайму грамадзянскаму абавязку. Яго ўзрушае сапраўднае каханне. Ён даражыць сябрамі, з якімі стаіць на ахове дзяржаўнай граніцы. Калі яго сэрца ўзрушана нечым, ён спявае матчыны песні. І не спыняецца, каб з кулакамі кінуцца на пашляка або цыніка-балбатуна, які абражае свяшчэнныя для Тэмо паняцці...

Такім яго прадстаўляе і Гомельскі тэатр. Спектакль, пастаўлены рэжысёрам І. Паповым у садружнасці з Л. Манакавай, гучыць тэмпераментна. Ён адразу абуджае сімпатыі гледачоў і сваёй, калі так можна сказаць, трапяткой і светлай інтанацыяй, і сакавітымі вобразамі герояў. Адчуваеш, што выканаўцы роляў іграюць з творчай асалодай. Яны натуральна трымаюцца і ў стыхіі народнага грузінскага гумару, і смела вымаўляюць патэтычныя маналогі. Рэжысура дакладна вызначала тэмп спектакля—імклівы, з выразнымі і насычанымі эмацыянальным падтэкстам паўзамі; ён то прасветлена лірычны па настроі, то раптам набывае драматычныя адценні.



**Першы злева—артыст В. Смірноў у ролі Тэймураза Джакелі.**

У жанры камедыі рэжысура ўвесь час шукае зачэпку для тэмпераментнай, захапляючай размовы з гледачом, імкнецца дасягнуць вялікіх абагульненняў, паказаць не проста станаўленне характару маладога чалавека, Тэймураза Джакелі, але і сказаць пра тое, што ёсць моцная аснова ў нашай моладзі, што лёс радзімы ў надзейных руках.

**...Сцэнічная пляцоўка апранута ў нібыта з медзі каваныя вялікія пласціны. На іх нібы выціснены эпічныя сцэны, а на першым плане ў цэнтры постаць жанчыны, якая ўспрымаецца як вобраз грузінскай Мадонны, маці-Радзімы.**

**Калі ведаеш п'есу загадзя, дык мімаволі насцярожваешся: ці не цяжкавата ўсё гэта для тонкай, лёгкай, дасціпнай п'есы Н. Думбадзе? Але вось глядзіш спектакль, і на гэта неяк забываешся, а да канца першай яго часткі пачынаеш разумець, што рэжысуры такое рашэнне было якраз неабходным для таго, каб ураўнаважыць лёгкасць драматургічнага матэрыялу з тым «сур'ёзам», які адчуваецца за гэтай лёгкасцю. У прынцыпе не пярэчачы супраць менавіта такога рашэння, трэба ўсё ж сказаць, што некаторая абцяжаранасць афармлення прысутнічае, і яго амаль эпічная манументальнасць іншы раз не-не ды і зайграе самастойна, па-за канкрэтным месцам дзеяння, пры гэтым больш значна, чым тое, што адбываецца ў дадзены момант на сцэне.**

Пачынаецца спектакль весела, нават гарэзліва, з юнацкім тэмпераментам. Так уваходзіць у жыццё, напрыклад, герой спектакля Тэймураз. І рэжысура глядзіць на навакольны свет нібы вачыма галоўнага героя. Спектакль паступова набывае ўсё больш сур'ёзнае гучанне. Жыццё ставіць перад Тэймуразам да некаторай ступені цяжкія перашкоды, і рэжысёр накіроўвае выканаўцу ролі па шляху магчымай ускладненасці ўнутранага свету вобраза, яго ўзаемаадносін з асяроддзем.

Тэмо артыста В. Смірнова выглядае юнаком, які завітаў на сцэну ў Гомелі з натоўпу тбіліскіх вуліц. Ён любіць і ўмее жартаваць. Яму, калі хочаце, нават карціць часам пакпіць з кагосьці, кінуць дасціпную рэпліку і... заставацца зусім адкрытым перад старымі і юнымі сябрамі. Гэта, бывае, называюць акцёрскай раскаванасцю, і яна стала асноўнай акцёрскай фарбай у выкананні ролі В. Смірновым. Яго Тэмо так радуецца жыццю, што гатовы нават спяваць, калі гутарыць з каханай дзяўчынай або з дзіваком-суседам. Калі ж дадаць да гэтага пластычную выразнасць, уласцівую, мабыць, В. Смірнову наогул, то стане ясным — гамяльчане маюць у спектаклі жывога і неканальнага героя.

**Праўда, працэс духоўнага пасталення перадаецца ім даволі знешне. Пабудаваўшы выразную плынь эмацыянальнага жыцця «ў вобразе», знайшоўшы ўражлівую форму паводзін на сцэне, В. Смірноў часам выглядае аднастайным у праявах гневу або ўзрушэння. Мінае час, сутычкі з сябрамі і «праціўнікамі» нешта гартуюць у характары Тэмо, ад нечага прымушаюць яго адмовіцца, але ён застаецца такім, якім быў «прадстаўлены» тэатрам напачатку спектакля. Тут, магчыма, вінаваты і драматург, які—асабліва ў другой частцы п'есы — «вядзе» героя па сюжэтных скрыжаваннях, не вельмі глыбока даследуючы перамены ў інтэлектуальным станаўленні Тэмо, яго светаўспрыманні. Мне здалося, што В. Смірноў занадта часта... ўсміхаецца. Твар яго абаяльны, ён, як кажуць, падкупляе. Як і інтанацыі голасу, гатовага ад «суровай прозы» адразу ж пераключыцца на «паэтычную хвалю». З цягам часу і гэтая ўсмешка, і манера гаварыць робяцца прывычнымі для яго самога і для гледачоў, выконваюцца фармальна. Ці ж дарэчы, скажам, усмешка, калі Тэмо ўспамінае загінуўшых бацькоў? Або тады, калі гэты юнак прадчувае, што кватэра, дзе «піжоны» дыскутуюць пра паэзію і гісторыю, вось зараз будзе для яго полем бою,—тут ужо зусім новае трымціць у яго душы, а на сцэне ўсё той жа абаяльны хлопец... Рэжысура і выканаўца ролі павінны звярнуць увагу на тое, што для кантрасту да гэтага дзюцца пераважна «слязлівыя» інтанацыі, якія таксама не ўзбагачаюць характар героя.**

Затое ў поўнай адпаведнасці з тым, што напісаў драматург, вядзе В. Смірноў сцэны з дзядзькам Вано (яго без штучных «націскаў» іграе П. Філіпаў) і з майстрам гадзіннікаў Гургенам (В. Драбышэўскі). Лірычная празрыстасць у самаадчуванні герояў пануе і тады, калі тбіліскія «Рамео» і «Джульета» нашага часу—Тэмо і Дадуна (С. Гаркуша)—вядуць дыялогі...

Спектакль пастаўлены адкрыта ўмоўна. Гэта адпавядае «прыродзе» п'есы. Яна напісана як размова Тэмо з гледачамі, як маналог героя, што перапыняецца самімі падзеямі. У гамяльчан спектакль паступова набывае трохі іншы характар—Тэмо больш каменціруе падзеі, ад маналога застаюцца зусім кароткія рэплікі. Пакуль яны вымаўляюцца, дзеючыя асобы самі ў поўзмроку перастаўляюць дэкарацыі. І ўсё гэта робіцца артыстамі лёгка, у імправізацыйным плане, без адчувальнага рэжысёрскага «прымусу»... Адгаварыў свой тэкст на авансцэне Тэмо, дэкарацыі «змянілі» месца дзеяння—і спектакль працягваецца так, быццам ён і не перапыняўся. Гэтаму акампануе цудоўная народная музыка і мелодыі сучасных грузінскіх кампазітараў. Так крышталізуецца выразная дынаміка ўсяго, што адбываецца на сцэне, мастацкае адзінства прыёмаў. За гэта гледачы ўзнагароджваюць тэатр апладысментамі. Яны тым больш заслужаныя, што І. Папоў за ўмоўнымі сродкамі не губляе логіку драматургічнага развіцця твора.

**Эталонам натуральных паводзін у такім спектаклі з'яўляецца выкананне ролі Ісідара Джакелі М. Цурбаковым. Ён і каларытны, і разам з тым дакладна «ўпісаны» ў партытуру спектакля. Блізкія да яго актрыса Н. Карнеева (цётка Сашыко) і П. Філіпаў, аб якім мы сказалі вышэй. Надзвычай хвалюе іх ігра, калі яны закранаюць тэму «памяці сэрца» і вуснамі герояў, як і маўчаннем, аддаюць пашану тым, хто не вярнуўся некалі з рэвалюцыйных барыкад або з франтоў...**

Больш выразным атрымаўся ў гамяльчан першы акт. Тут мы як бы разам з Тэмо пазнаем жыццё, паглыбляемся ва ўнутраны свет героя. Другая частка пастаўлена «скорагаворкай». Магчыма, яна з'явілася ад даволі рашучага ўмяшальніцтва тэатра ў тэкст п'есы—з яе выкінуты важны эпізод, без якога візіт Тэмо ў госці пасля службы на граніцы выглядае прыватным эпізодам; драматург жа так напісаў п'есу, што тут «за плячыма» юнака мы павінны адчуваць яго сяброў па арміі. Да таго ж яшчэ ў спектаклі ролю Арчыла зрабілі большай, аб'яднаўшы яго з роллю Гіві, які ў другой частцы рашуча падтрымлівае Тэймураза.

Супраць такога аб'яднання персанажаў можна было б не пярэчыць (ролі блізкія па духу, а характар Арчыла ў першай частцы толькі крыху акрэслены,—ён знікае ў самым пачатку карціны), але незразумела, чаму павялічанага за кошт журналіста Гіві Арчыла артыст П. Вараб'ёў іграе нейкім спустошаным, паўп'яным? Застаецца такое ўражанне, нібы тэатр спяшаецца «дайсці» да фіналу, і гэта даруеш яму толькі таму, што сцэна з пісьмом пагранічніка Шчарбіны, якое так пранікнёна чытае ў якасці «маральнага дакумента» часу Тэмо—Смірноў, набывае маштабнае значэнне і ўзрушае залу высокай нотай грамадзянскага напалу.

**Спектакль, паказаны ў Мінску, набывае рысы завершанага сцэнічнага твора, дарагога для гомельскай трупы. Гэта адчулі мінчане. І гэта дае падставы спадзявацца, што тэатр на чале з такім патрабавальным і вынаходлівым па майстэрству рэжысуры мастаком, як народны артыст БССР І. Папоў, не будзе лічыць работу ўжо цяпер канчаткова завершанай, што ён яшчэ ўзбагаціць пастаноўку выразнымі адценнямі багатага эмацыянальнага свету, які адкрыў Н. Думбадзе.**

Развітваешся з Тэмо «з Гомеля» са светлым пачуццём радасці ад такога знаёмства. «Не трывожся, мама!..» на сцэне гэтага тэатра прагучала песняй, якая славіць жыццё і маладое імкненне берагчы яго хараство. Яму будзе шчасціць у жыцці, таму Тэймуразу Джакелі, што заваяваў нашу ўвагу і сімпатыі ў часе паказу гомельскага спектакля.

**Уладзімір БАГАЛЮБСКІ.**

# Мікалай Ільіч АЛАДАЎ

Беларускае музычнае мастацтва панесла цяжкую страту—пасля цяжкай хваробы памёр буйны беларускі кампазітар і музычна-грамадскі дзеяч, член КПСС з 1944 года, адзін з заснавальнікаў беларускага прафесіянальнага музычнага мастацтва і адукацыі, народны артыст БССР, прафесар Мікалай Ільіч Аладаў.

М. І. Аладаў нарадзіўся 21 снежня 1890 года ў Пецярбурзе. У 1910 годзе закончыў Пецярбургскую кансерваторыю і ў далейшым займаўся выкладчыцкай і музычна-асветніцкай дзейнасцю. З 1924 года ўсё яго жыццё і творчая дзейнасць звязаны з Беларуссю, з развіццём яе музычнага мастацтва.

М. І. Аладаў быў адным з арганізатараў Беларускага дзяржаўнага музычнага тэхнікума і Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, выкладчыкам якой ён з'яўляўся да канца свайго жыцця. Творчая дзейнасць Мікалая Ільіча як кампазітара і педагога зрабіла істотны ўплыў на развіццё нацыянальнай музычнай культуры Савецкай Беларусі.

Сваёй творчасцю кампазітар пастаянна адклікаўся на важнейшыя падзеі, звязаныя з гісторыяй і жыццём народа. Ім створаны 10 сімфоній, опера «Андрэй Касценя»—аб подзвігу партызан Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны, кантаты «Просты і сціплы», прысвечаная У. І. Леніну, «Сорак гадоў» — у гонар гадавіны Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, «Над ракой Арэсай», «Дарогамі барацьбы і перамог» і шмат іншых сімфанічных, камерна-інструментальных і вакальных твораў. 50-годдзю ўтварэння СССР кампазітар прысвяціў кантату «Дружба народаў».

Лепшыя творы М. І. Аладава здабылі яму папулярнасць і прызнанне шырокіх мас. Ідэйна перакананы, прынцыповы камуніст, ён паслядоўна і настойліва праводзіў у сваёй творчасці прынцыпы партыйнасці і народнасці савецкага мастацтва. Творчая і грамадская дзейнасць таленавітага беларускага кампазітара адзначана высокімі ўрадавымі ўзнагародамі: двума ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга, ордэнам «Знак Пашаны», медалямі.



Светлая памяць аб Мікалаю Ільічу Аладаве — сціплым, душэўным чалавеку выдатным мастаку — назаўсёды захаваецца ў сэрцах усіх, хто ведаў кампазітара, працаваў разам з ім. Яго музыка застанецца з народам і будзе служыць справе ідэйна-эстэтычнага выхавання савецкіх людзей.

**П. М. Машэраў, Ф. А. Сурганаў, Ц. Я. Кісялёў, А. Н. Аксёнаў, Л. Г. Кляцкоў, А. Т. Кузьмін, У. Е. Лабанок, У. Ф. Міцкевіч, М. Н. Полазаў, І. Я. Палякоў, А. А. Смірноў, М. І. Лагір, Я. П. Нікулкін, У. І. Падрэз, І. М. Траццяк, І. Ф. Клімаў, Н. Л. Сняжкова, С. В. Марцалеў, М. М. Слюнькоў, Л. П. Александроўская, А. В. Багатыроў, Г. М. Вагнер, В. А. Грамыка, І. І. Жыновіч, А. І. Клімава, М. В. Кавалёў, У. У. Корш-Саблін, І. М. Лучанок, Г. Н. Загародні, Ю. М. Міхневіч, Т. М. Ніжнікава, У. У. Алоўнікаў, Н. В. Прашко, С. М. Пуцылеў, Ю. У. Семяняка, Максім Танк, Г. І. Цітовіч, Р. Р. Шырма, Н. П. Шаўчук.**

# БЫВАЙ, ДАРАГІ ДРУГ

Смерць вырвала з жыцця выдатнага беларускага кампазітара, аднаго з заснавальнікаў беларускай музычнай школы Мікалая Ільіча Аладава.

Гэтага чалавека я ведаў больш за сорак гадоў. Ён быў для мяне настаўнікам, другам і выдатным чалавекам. Мне выпаў вялікі гонар здаваць яму экзамен пры паступленні ў Мінскі музычны тэхнікум. Я працаваў з М. І. Аладавым у кансерваторыі. На працягу некалькіх дзесяцігоддзяў нашы творчыя шляхі ішлі побач. Я заўсёды адчуваў вялікую дапамогу з яго боку, з боку старэйшага друга і таварыша.

У цяжкія гады Вялікай Айчыннай вайны нашы сувязі не спыняліся. Жылі мы ў розных мясцінах, але перапісваліся, дзяліліся тым, што нас хвалявала, рыхтаваліся да радаснага дня, калі вернемся ў Мінск і пачнем аднаўляць жыццё, працаваць у імя далейшага росквіту музычнай культуры роднай Беларусі.

І гэты дзень надышоў. У жніўні 1944 года мы вярнуліся ў сваю сталіцу. І з таго часу М. І. Аладаў — нязменны выкладчык Беларускай кансерваторыі імя А. В. Луначарскага. Ён працаваў на гэтай пасадзе да апошніх сваіх дзён. Нават будучы цяжка хворым, падтрымліваў цесныя сувязі з навучальнай установай, якая пакінула глыбокі след у яго жыцці, у яго лёсе. І ён зрабіў для яе таксама вельмі многа.

Стваральнік цудоўных музычных твораў, М. І. Аладаў быў чалавекам унікальных ведаў. Ён першы ў нашай рэспубліцы пачаў пісаць творы ў камерным жанры, напісаў фартэпіянны квінтэт на беларускія тэмы, стварыў рамансы на словы Купалы, Багдановіча і іншых класікаў беларускай літаратуры. Мікалай Ільіч працаваў ва ўсіх жанрах. Ён глыбока ведаў беларускі фальклор і, як выдатны знаўца і майстар, апрацоўваў яго, надаваў яму новае гучанне. Не выпадкова ўсё створанае Аладавым карыстаецца папулярнасцю сярод аматараў музыкі ў нашай рэспубліцы і далёка за яе межамі. Самыя значныя творы кампазітара ўвайшлі ў залаты фонд беларускай савецкай музыкі.

Мікалаю Ільічу Аладаву належыць вядучая роля ў станаўленні беларускай музычнай адукацыі. Яго ўклад у развіццё музычнага мастацтва цяжка пераацаніць.

Кожны, хто вучыўся ў Аладава, прайшоў праз яго выдатную школу. Тое, што зроблена ім у галіне выкладання музычна-тэарэтычных прадметаў у кансерваторыі, назаўсёды застанецца ў педагагічнай практыцы, як узор навучання студэнтаў, будучых музыкантаў усіх профілей.

Вялікае, ад усяго сэрца дзякуй табе, дарагі Мікалай Ільіч! Ты заўжды будзеш з намі. Нізка схілем галовы перад тваёй памяццю.

**Анатоль БАГАТЫРОЎ,**
народны артыст БССР.

**Міністэрства культуры БССР, Саюз кампазітараў БССР, Беларуская дзяржаўная кансерваторыя з глыбокім жалем паведамляюць аб смерці вядомага беларускага кампазітара, народнага артыста БССР, прафесара Мікалая Ільіча АЛАДАВА, якая наступіла 4 снежня 1972 года пасля цяжкай хваробы, і выказваюць спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**

**Педагагічны калектыў сярэдняй спецыяльнай музычнай школы пры Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі глыбока смуткуе з прычыны смерці выдатнага беларускага кампазітара Мікалая Ільіча Аладава і выказвае спачуванне сям'і нябожчыка.**

ПЕРШЫЯ дні, калі бацька паехаў у водпуск, Надзейка, прыходзячы дадому, сумавала. Звычкі запрашаць да сябе каго са знаёмых у яе не было, ды, па праўдзе кажучы, і сяброўак такіх, з якімі магла б дзяліцца набалелым, адводзіць душу ў размове, раіцца аб нечым запаветным, яна не мела. Сыходзілася з дзяўчатамі на рабоце, на вечарах, на камсамольскіх сходах, заваёўвала ў іх сімпатыі даволі хутка, але ў дружбе была не шчодрая, пераборлівая. Не любіла дзявочых кампаній, дзе часам нават не грэбуючы плёткамі, абгаворвалі ўсіх, хто трапляў на язык, смакавалі нелады ў маладых сем'ях, зайздросцілі адна адной з выпадку якіх удач; у Надзейкі гэта выклікала прыкрасць і пагарду.

З дзяўчат ёй найбольш падабалася самастойная, разважлівая Аліна Краскова, брыгадзір тынкоўшчыц з другога будупраўлення. Тая цяпер збіралася замуж і ёй было не да Надзейкі. Тоська, якая ўсё ж настаяла на пераводзе ў Надзейчыну брыгаду, сама патрабавала ўвагі і разумнай парады. Трое іншых дзяўчат у брыгадзе былі ў гадах, яшчэ двое — замужнія, на Надзейку пазіралі як на прысланую начальніцу, і таварыскай блізкасці з ёй пазбягалі: куды нам, маўляў, да яе!

Пра хлопцаў, з якімі можна шчыра сябраваць, Надзейка неяк не думала ўсур'ёз. На заляцанні адказвала жартамі — «усе вы аднаго крою, прыкідваецеся ягняткамі, каб ашукаць ды даць лататы». Адзіны, каго яна лічыла сваім блізкім, быў Ігнась Ракіцкі. Яна была ўпэўнена ў яго прывязанасці, верыла яму. Але калі ён прызнаўся ёй у сваіх пачуццях і чакаў адказу, разгубілася. Адказаць станоўча азначала даць згоду звязаць з ім лёс. Адмовіць — значыць згубіць хлопца, лепшага за якога і з выгляду і характарам яна пакуль не сустракала... Ці не рана нагул развітвацца з дзявочай воляй? Яшчэ не адчула па-сапраўднаму самастойнасці, не пазнала як след жыцця. Пытанне за пытаннем паўставала перад ёй.

«Дарэмна не пагаварыла па душах з таткам пра начную размову з Ігнасём на Дзвіне... Тата зразумеў бы, — шкадавала яна. — Калі ж ён прыедзе з водпуску? — падлічвала. — Аж у канцы верасня... Ой, як доўга чакаць!»

Кватэра пасля ад'езду бацькі здалася Надзейцы празмерна вялікай і апусцелай. Як ні старалася падтрымліваць у пакоях, на кухні і ў калідорчыку парадак і чысціню, усё роўна ўвечары, вярнуўшыся з работы, улоўлівала пах пылу, нібы ён адкладваўся-назапашваўся дзесь у хатніх закутках. Укладваючыся спаць у сваім пакоі, яна не тушыла святла — у цемры было не па сабе, вусцішна. Чытала ў пасцелі пры настольнай лямпе, як гэта рабіў бацька, ды так і засынала, не выключыўшы лямпы.

Зморaная за дзень, спала моцна, без сноў, а калі і снілася, дык пераважна — маці. Ад яе прыйшло яшчэ адно пісьмо, адрасаванае Надзейцы асабіста. Упрошвала-маліла прыехаць. У просьбе чулася тужлівая ўсхваляванасць. З адказам Надзейка не спяшалася, вельмі глыбока запала крыўда. Вырашыла дачакацца бацькі, паказаць яму пісьмо — што ён скажа?

Снілася ж маці не цяперашняй, што паехала ў працяглую камандзіроўку і нечакана-негадана засталася там, а ранейшай, той, якая для Надзейкі ад першых дзён, як яна памятае сябе, была прыгажэйшая і ласкавейшая з усіх жанчын на свеце. На яе, малую Надзейку, глядзелі вочы, поўныя нязгаснай любові, яе лашчылі цёплыя, пяшчотныя матчыны рукі, яе супакойваў і суцяшаў заўсёды мілы, пявучы голас. І ў сне цяпер маці, маладая і прыгожая, то клапатліва схілялася над ёй, заглядаючы мяккім позіркам у самую душу, то вяла яе за руку чэрвеньскім лугам з бушуючымі травамі і краскамі, то люляла, напяваючы нешта ціхае, задумлівае, што навявала спакой, закалыхвала... Так бы і быць з ёй, любай, адзінай увесь час, усё жыццё.

«Дзе ты, мама?.. Дзе?»—трывожна ўсхоплівалася Надзейка, прачнуўшыся і адчуваючы, як гарачая вільгаць поўніць вочы. Ніхто не адгукаўся, у кватэры яна была адна.

Ранішнія зборы не займалі шмат часу. Устаўшы, Надзейка прыбірала ў пакоі, прыбіралася сама, выпівала шклянку забеленай кавы з лустай жытняга хлеба з маслам і спяшалася на аўтобусны прыпынак. Ехала яна штораніцы на работу з ахвотай, хоць ведала, што і сёння шні дзень не пройдзе спакойна, гладка — турбот, беганіны, розных размоў і спрэчак хопіць; да гэтага яна прывыкла, а вось, што восень зарана насунулася, гэта ёй было не па душы, працаваць станавілася цяжэй, чым улетку.

Верасень і першая палова кастрычніка ў Прыдзвінні — залатая пара, калі лета павольна, як бы з аглядкай, саступае месца восені. У жоўталісце, як у сонечнае ззянне, апрануты бярэзнікі, чырвоным полымем гараць асіны на ўзлесках, срэбрам сцелецца па іржышчах павуцінне, і паветра празрыстае — відаць далёка-далёка. Але сёлета ў гэтую пару ясных дзён выпала мала, задаждж ыла раней звычайнага. Неба часцей і часцей ухутвалася набрынялай вільгаццю воўнай і абрыналася на зямлю не імклівым спорным, як у чэрвені ці ліпені, дажджом, а доўгай нуднай імжой. Імжыла цэлымі днямі і рэдка калі сярод дня вецер разрываў хмарны полаг, адкрываючы прысмужаную сіняву неба з няяркім, па-асенняму журботным сонцам.

Няўтульна стала на заводскай пляцоўцы. Хмары часам, здавалася, чапляліся за выносісты цагляны комін электрастанцыі і вяршыні калон тэхналагічных установак і не плылі, а навісалі над будоўляй. У дрыготкай шэрані няясна выступалі абрысы збудаванняў — бліскучастыя бакі металічных калон і рэзервуараў, белыя і чырвоныя сцены вытворчых карпусоў, жмуты тоўстых і тонкіх труб, што цягнуліся-віліся па эстакадах. Між калон, карпусоў, бетонных апор эстакад ганялі імжу скразнякі. Суглiністая глеба размякла, пад'язныя дарогі развязло, машыны часта буксавалі і грузлі. Сышоўшы ўранні з аўтобусаў і грузавікоў, людзі брылі да рабочых месц скліз-

# АКЦЁР НА ЭКРАНЕ, АКЦЁР ПА-ЗА ЭКРАНАМ

**У РЭДАКЦЫЮ газеты «Літаратура і мастацтва» звярнулася настаўніца Мінскай школы-інтэрната № 13 А. Караткевіч. У пісьме яна ставіць вельмі надзённае пытанне пра ўдзел тэатральных артыстаў рэспублікі ў стварэнні беларускіх мастацкіх фільмаў. Аўтар пісьма спасылаецца на пастанову ЦК КПСС «Аб мерах па далейшаму развіццю савецкай кінематаграфіі», прыводзіць словы з гэтага дакумента аб тым, што «на экране рэдка з'яўляюцца героі, якія б захаплялі цэльным характарам, чалавечай абаяльнасцю, адданасцю камуністычным ідэалам». Як глядач, А. Караткевіч гаворыць, што вобразы такіх герояў па літаратурных сцэнарыях пад кіраўніцтвам рэжысуры ствараюць артысты. На жаль, студыя «Беларусьфільм» не скарыстоўвае таго акцёрскага багацця, якое мае беларускае мастацтва. «Мы любім і шануем цудоўных артыстаў тэатраў імя Я. Купалы і імя Я. Коласа, іншых сцэн рэспублікі, — піша А. Караткевіч. — Чаму ж яны так рэдка і зусім выпадкова ўдзельнічаюць у стварэнні вобразаў тых герояў, аб якіх гаворыцца ў партыйным дакуменце?»**

**Гэтае пытанне хвалюе і нашу кінематаграфічную грамадскасць. Карэспандэнт «ЛІМа» А. Мацкевіч пазнаёміў з гэтым пісьмом народнага артыста БССР Мікалая Яроменку і папрасіў яго даць свой каментарый.**

**Ніжэй друкуецца гутарка з М. Яроменкам.**



— ПАСТАНОВА ЦК КПСС «Аб мерах па далейшаму развіццю савецкай кінематаграфіі» зрабіла самы глыбокі ўплыў на дзейнасць літаратараў, рэжысёраў, акцёраў, аператараў, кінакрытыкаў, стала праграмай нашай паўсядзённай практыкі. Кіруючыся ёю, мы будзем ажыццяўляць планы, задумы, ствараць творы, як патрабуе ад нас гэты гістарычны дакумент.

Кіно, як вядома, мастацтва сінтэтычнае і калектыўнае. Побач з кінадраматургам, рэжысёрам, аператарам акцёру адводзіцца не менш адказная роля. Разам з імі ён таксама з'яўляецца сааўтарам фільма.

Цяжка пераацаніць той уклад, які ўнеслі, скажам, у стварэнне лепшых кінастужак Я. Урбанскі ў фільме «Камуніст», М. Ульянаў у карціне «Старшыня» і, самы свежы прыклад, — Башкірцаў — К. Лаўроў у фільме «Утаймаванне агню». Такіх імён можна назваць многа. Але права на гэткае сааўтарства даецца артысту, які добра ведае жыццё, мае выразную грамадзянскую пазіцыю, з'яўляецца носьбітам пэўнай індывідуальнасці і бездакорна валодае прафесійным майстэрствам.

Асабіста я магу спаслацца на такі прыклад. С. А. Герасімаў — буйны рэжысёр савецкага кіно. Яго аўтарытэт вялікі і бясспрэчны. Аднак, у працэсе сумеснай работы над фільмам «Людзі і звяры» ён стварыў такую творчую атмасферу, калі кожны з нас, артыстаў, мог весці пошук свабодна і зацікаўлена, адчуваючы сябе аднадумцам, саўдзельнікам аўтара. І толькі там, дзе хтосьці памыляўся, Сяргей Апалінарыевіч прыходзіў на дапамогу і з вялікім педагагічным тактам папраўляў. І калі мне ўдалося нечага дасягнуць у рабоце над вобразам Аляксея Паўлава, то гэтаму ў значнай ступені садзейнічала тая творчая атмасфера, пра якую гаварылася вышэй.

А здараецца і так.

Запрасілі аднаго вядомага беларускага артыста для кінапробы на галоўную ролю ў фільме пра партызанскага важака. Артыст асабіста ведаў гэтага легендарнага чалавека. Таму запрашэнне стварыць яго вобраз на экране вельмі ўсхвалявала яго і, як мастак, ён падышоў да прапановы з усёй адказнасцю... А потым—ніводнай рэпетыцыі, ніводнай папярэдняй размовы з рэжысёрам. Іх сустрэча адбылася на здымачнай пляцоўцы за дзесяць-пятнаццаць хвілін да пробы. Артысту належала іграць тры вельмі складаныя кавалкі ролі, прычым адзін з іх — трагічнага гучання. Напэўна, з гэтага нічога не выйшла.

Як высветлілася пазней, рэжысёр даўно ўжо выбраў выканаўцу, а ўсё астатняе яму спатрэбілася для таго, каб давесці, што ў нашай рэспубліцы, маўляў, няма адпаведнага акцёра. Той, выбраны, ролю выканаў добра. Але чаму ў адносінах да іншых артыстаў рэжысёр дапусціў гэткую абыякавасць і крывадушнасць?

**— Кожная ваша работа над фільмам пачынаецца са сцэнарыя, знаёмства з ім. Якія пачуцці выклікае ў вас гэта першае знаёмства!**

— Самыя актыўныя. Таму што кожны раз спадзяешся сустрэцца ў літаратурнай першааснове з вобразам таго героя, аб якім ты марыш і якога б надта хацеў увасобіць на экране. На жаль, добрых сцэнарыяў пакуль што яшчэ вельмі і вельмі мала. Гэта амаль самая вострая праблема. Яна стрымлівае, тармозіць развіццё нашага кінематографа. Не магу прыгадаць такога выпадку, каб ужо ў працэсе здымак не дапрацоўваўся, не ўдасканальваўся сцэнарый. Вось чаму артыст павінен быць надзвычай актыўным у адносінах да драматургіі сваёй ролі, драматургіі ўсяго фільма. Тут, дзе нараджаецца будучы кінатвор, і павінны ва ўсю моц праяўляцца лепшыя якасці артыста-прафесіянала, артыста-мастака і грамадзяніна.

**— Што вы можаце сказаць аб меры свайго ўдзелу, а таксама і іншых беларускіх артыстаў у стварэнні беларускіх кінакарцін!**

— Думаю, што мой асабісты лёс у беларускім кіно склаўся даволі ўдала. Першым маім рэжысёрам быў адзін з заснавальнікаў беларускага кінематографа У. У. Корш-Саблін. Сваім фільмам «Першыя выпрабаванні» ён даў мне пуцёўку ў кінамастацтва. З таго часу я здымаюся ва ўсіх яго фільмах. Добрае ўзаемаразуменне, сапраўды творчае сяброўства ўсталявалася з рэжысёрамі студыі «Беларусьфільм» сярэдняга пакалення —Ігарам Дабралюбавым, Юрыем Дубровіным, Мікалаем Калініным. Я разлічваю на тое, што гэтае сяброўства будзе яшчэ больш плённым... Гэта аб сабе.

Аднак, калі разглядаць праблему ў цэлым, то карціна атрымліваецца не вельмі суцяшальная. Бо лёс многіх беларускіх акцёраў у беларускім кіно склаўся менш спрыяльна, чым у мяне. Каб не быць галаслоўным, прывяду некаторыя прыклады. Да вялікага жалю, сярод нас няма такіх выдатных майстроў беларускай сцэны, як народныя артысты СССР Б. Платонаў, Ул. Уладамірскі, Г. Глебаў, А. Ільінскі. Падумайце, які след пакінулі яны ў беларускім кінематографе? Калі Г. Глебаў рэдка, праўда, здымаўся ў фільмах, хоць гэта і не адпавядала сіле яго таленту, то Б. Платонаў, Ул. Уладамірскі і А. Ільінскі, па-сутнасці, засталіся «неадкрытымі» нашымі кінематаграфістамі.

Нядаўна мне ўжо ў каторы раз давялося глядзець хранікальна - дакументальны фільм «Думкі і вобразы», дзе Барыс Платонаў паказаны ў маленькім эпізодзе са спектакля «Жывы труп» у ролі Федзі Пратасава. І ўжо ў каторы раз я падумаў, якую страту панёс беларускі кінематограф, не скарыстаўшы ў свой час бязмежна багатых магчымасцей гэтага мастака!

І сёння, працуючы побач з такімі зоркамі беларускай сцэны, як Л. Ржэцкая, П. Малчанаў, Ул. Дзядзюшка, З. Стома, С. Станюта, В. Пола і многімі іншымі, пераконваешся, што іх самабытныя таленты засталіся па-за ўвагай кінематографа. А як узбагацілі б яны сваім удзелам мастацкія фільмы «Несцерка», «Магіла льва», «Паўлінка», знятыя на беларускім матэрыяле.

Мабыць, гэта адна з асноўных прычын, па якой у нас не ствараюцца кінастужкі нацыянальнага характару, што так бліскуча зроблена грузінскімі кінематаграфістамі («Бацька салдата» з С. Закарыядзе), літоўскімі («Ніхто не хацеў паміраць» з Д. Баніёнісам), украінскімі («Белая птушка з чорнай адзнакай» з І. Мікалайчуком) і г. д.

Праўда, у апошні час многае робіцца ў гэтым напрамку. Мне давялося гутарыць нядаўна са старшынёй Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па кінематаграфіі У. В. Мацвеевым, з дырэктарам кінастудыі «Беларусьфільм» У. Э. Іваноўскім, загадчыцай акцёрскім аддзелам студыі Т. А. Кавалёвай, і я пераканаўся, што ўсе яны глыбока зацікаўлены ў тым, каб найлепшым чынам вырашыць праблему больш актыўнага ўдзелу беларускіх артыстаў у кінематографе.

У працэнтных адносінах лічбы выглядаюць даволі значнымі. Напрыклад, у 1971 годзе ў 17 кінастужках (разам з тэлефільмамі) з 201 ролі 97 выконвалі беларускія артысты. У 1972 — з 72 роляў яны былі заняты ў 29. Значыць, у колькасным сэнсе тут усё нармальна. Цяпер размову трэба весці аб больш правільным размеркаванні роляў паміж акцёрамі, аб стварэнні спрыяльных умоў для шырокага выкарыстання іх творчых магчымасцей. Трэба дадаць, што вялікі рэзерв тояць у сабе абласныя драматычныя тэатры. І рэзерв гэты далёка не вывучаны нашымі кінематаграфістамі...

Або звернем увагу на такую акалічнасць. Студыя «Беларусьфільм» запрашае на здымкі мастацкай стужкі рэжысёра, заключае з ім умову, ён вывучае літаратурны сцэнарый і пачынае падбіраць выканаўцаў галоўных роляў. Як гэта робіцца? Пазнаёміўшыся з матэрыяламі акцёрскага аддзела студыі, дзе сабраны характарыстыкі многіх артыстаў, рэжысёр катэгарычна гаворыць, што патрэбных яму выканаўцаў тут няма, што трэба ехаць у Маскву або Ленінград, шукаць артыстаў. Яму раяць паглядзець спектаклі ў коласаўцаў або купалаўцаў, пазнаёміцца з акцёрамі Брэста або Гомеля... Не, ён бярэ камандзіроўку і выпраўляецца ў вялікі вааж. Ці нармальна гэта? Ці так адкрывалі для экрана новыя імёны А. Даўжэнка, Ул. Корш-Саблін, В. Жалакявічус або Т. Абуладзе?..

Вось і атрымліваецца, што вобраз Несцеркі стварае ленінградскі артыст, Францішка Скарыну іграе акцёр з Саратава... Мы не хочам сказаць нічога кепскага аб гэтых выканаўцах. Але калі з году ў год паўтараецца адно і тое ж, гэта — руціна, з якой нельга мірыцца...

Трэба разумна спалучаць творчыя сілы, маючы на ўвазе росквіт нацыянальных кадраў кінамастацтва.

**— Мікалай Мікалаевіч, што, на Ваш погляд, патрэбна зрабіць для таго, каб у бліжэйшы час была актывізавана дзейнасць беларускіх артыстаў у кінамастацтве!**

— Першае, што неабходна зрабіць, гэта правесці сур'ёзную, грунтоўную размову. У ёй, як мне здаецца, павінны прыняць удзел кіраўнікі Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па кінематаграфіі, міністэрства культуры рэспублікі, кінастудыі «Беларусьфільм», дырэктары тэатраў, рэжысёры тэатра і кіно, акцёры, усе зацікаўленыя асобы.

Лічу, што пытанне, аб якім ідзе гаворка, дзяржаўнага значэння і вырашаць яго трэба па-дзяржаўнаму. Мы ведаем, што вельмі многа каштоўнага зроблена і робіцца, але мастацтва, як і наша жыццё, не стаіць на месцы, яно імкліва развіваецца, ставіць перад намі ўсё новыя і новыя патрабаванні. Выканаць іх — гэта значыць паспяхова ажыццявіць Пастанову ЦК КПСС «Аб мерах па далейшаму развіццю савецкай кінематаграфіі».

*З НОВЫХ ПЕРАКЛАДАЎ*

## Інара РОЯ



**Маладая латышская паэтэса Інара Роя — аўтар двух кніжак паэзіі. Удзельніца некалькіх Усесаюзных нарад маладых паэтаў. Яе вершы перакладзены на рускую, украінскую, грузінскую, армянскую, чувашскую мовы.**

**Інара Роя — урач па спецыяльнасці, член Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Латвіі, актыўны грамадскі дзеяч.**

**Упершыню прапануем беларускім чытачам вершы Інары Роя ў перакладах С. Грахоўскага.**

### ДА ЛЕНІНА ІДУ

Пра Леніна не думаць немагчыма,
Без Леніна не зразумець сябе.
Бываюць людзі з яснымі вачыма,
З сакратаўскай маршчынкай на ілбе,

Але няма такога чалавека,
Якога, як паходню, ўзняў народ
На бранявік, назваўшы сцягам веку
У той агністы, векапомны год.

Было даўней на свеце шмат куміраў,
Што паднімалі вострыя мячы.
Прыйшоў Ільіч у свет як сімвал міру,
Каб назаўсёды зло перамагчы.

І Ленінскае праўды не асіліць,
Бо з ім народы шчасце здабылі —
Вялікі сын вялікае Расіі
Стаў светлаю надзеяю зямлі.

У сэрцы — ЛЕНІН.
Але каб не збіцца
З вялікае дарогі нахаду,
Каб не сфальшывіць, каб не памыліцца,
Я раіцца да Леніна іду.

### ЗЯМЛЯ, ЗЯМЛЯ!

I.

Дзе камяні замшэлыя ляжаць,
Зямля чакае ўвагі і спагады,
Каб наліліся гронкі вінаграду,
Каб травамі шумела сенажаць.

II.

Калі ты скульптар, высячы з камення
Аблíччы з рысамі натхнення і красы,
А на зямлі хай кожнае імгненне
Растуць і даспяваюць каласы.

III.

Гара, як прывід лірніка сляпога,
Які знямеў, не расказаўшы многа,
Але пад цёмнай лавай палымнее
Агонь, што дапісаў апошні дзень Пампеі.

IV.

Зямля парой сама сабе пярэчыць,
Нібыта яд змяі, што губіць і што лечыць.
Рука з мячом прыносіць смерць і мукі,
Але ратуюць чалавека Рукі.

*У рэспубліцы налічваецца 25 тысяч гурткоў, ансамбляў, агітацыйна-мастацкіх брыгад, харавых і танцавальных калектываў, аркестраў. Яны аб'ядноўваюць звыш 600 тысяч самадзейных артыстаў. Справаздачныя канцэрты фестывалю праходзяць па ўсіх жанрах. Многія калектывы значна абнавілі свой рэпертуар, уключыўшы ў яго творы народнай творчасці брацкіх рэспублік СССР. Узніклі новыя ансамблі, хоры, якія заявілі аб сабе ў час фестывалю на раённых аглядах мастацкай самадзейнасці.*

*Да заключнага канцэрта рэспубліканскага фестывалю самадзейнага мастацтва засталося нямнога. У Мінск прыедуць калектывы і выканаўцы, якія атрымалі найвышэйшую ацэнку журы ў раёнах і абласцях.*

*Пра справаздачныя канцэрты некаторых калектываў чытайце ніжэй.*

# СУКВЕЦЦЕ НАРОДНЫХ ТАЛЕНТАЎ

«Увага! Да нас прыходзіць «цягнік дружбы» — не паспелі прагучаць гэтыя словы, як залу запоўнілі гукі музыкі. Танец змяняецца танцам, мелодыя мелодыяй. Вянок танцаў выконваюць самадзейныя калектывы Маладзечанскага, Слуцкага, Івянецкага, Пухавіцкага, Барысаўскага дамоў культуры. Пастаноўку гэтага арыгінальнага нумара ажыццявіў заслужаны дзеяч мастацтваў БССР П. Акулёнак. Гэтым нумарам і пачаўся ў памяшканні Акругова Дома афіцэраў заключны канцэрт самадзейнага мастацтва Мінскай вобласці, прысвечанага 50-годдзю ўтварэння СССР.

На канцэрце былі прадстаўлены самадзейныя калектывы амаль з усіх раёнаў. Тут былі і калектывы, якія даўно ўжо заваявалі павагу сярод гледачоў, нямала і такіх, што ўпершыню выступалі на сталічнай сцэне. Аднак і тых, і другіх аб'ядноўвала высокае майстэрства выканання, любасць да мастацтва. У праграме канцэрта — шмат арыгінальных беларускіх нумароў. Сярод іх «Этнаграфічныя малюнкі». Выконвалі іх розныя самадзейныя калектывы, у тым ліку такія вядомыя, як ансамбль дудароў з Капыля, вакальна-этнаграфічны ансамбль «Лявоніха» саўгаса «Сцяг Кастрычніка» Бярэзінскага раёна, танцавальны калектыў Бобрскага дома культуры Крупскага раёна.

«Хатынскія званы» — так называецца харэаграфічная кампазіцыя, якую выканаў Барысаўскі ансамбль песні і танца. Пастаноўку ажыццявіў М. Красоўскі. У гэтым жа выкананні надзвычай удала прагучала песня «Вечарынка ў калгасе» на словы народнага песняра Беларусі Янкі Купалы. Наогул, на заключным канцэрце было шмат харэаграфічных нумароў. Інсцэніроўку «Субацея» паставіў лаўрэат прэміі імя Ленінскага камсамола Беларусі, народны ансамбль песні і танца г. Маладзечна. Доўга апладзіравалі гледачы і танцавальнаму калектыву Івянецкага дома культуры. «Далікатная кадрыль» у іх выкананні пастаўлена з высокім майстэрствам.

Як ў калейдаскопе мяняюцца нумары. І кожны з іх па-свойму цікавы. Адчуваецца, што самадзейныя артысты доўга і доўга рыхтавалі, покуль вынесці той ці іншы нумар на суд патрабавальнага гледача. Шмат папрацавалі над афармленнем праграмы народны мастак БССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Я. Чамадураў і Я. Ждан. Відовішча сапраўды было маляўнічым і святочным. Нумары былі падабраны ўдала, яны дапаўнялі адзін другога, і ўся праграма ўспрымалася цэласна і завершана.

Шмат гучала і беларускіх народных песень. Іх выконвалі не толькі сельскія самадзейныя калектывы, але і ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці гарадскіх дамоў культуры. Парадаваў і эстрадны аркестр палаца культуры камбіната «Беларуськалій». Іх «Беларускі сувенір» сапраўды прынёс шмат радасці гледачам

**Я. ДРОМІН.**



Фрагмент з вакальна-харэаграфічнай кампазіцыі «Вянок дружбы» Гомельскага палаца культуры чыгуначнікаў.

Фота А. КАРНІЕНКІ.

# ХОРАША, МІЛАГУЧНА

Нядаўна ў дом культуры імя Горкага ў горадзе Барысаве сабраліся самадзейныя артысты Барысаўскага, Смалявіцкага, Крупскага, Лагойскага раёнаў, а таксама гарадоў Барысава і Жодзіна на занальны агляд народных талентаў. Агляд самадзейнага мастацтва праходзіў пад сцягам, прысвечаным 50-годдзю ўтварэння СССР.

У кастрычніку ў гэтых раёнах і гарадах прайшлі кустовыя агляды гурткоў мастацкай самадзейнасці. Лепшыя выканаўцы былі запрошаны на занальны агляд.

Выступаюць сёстры Люда і Зоя Рогавы, а таксама Валянцін Шархун з Забалоцкага сельскага клуба Барысаўскага раёна. Яны выконваюць песню «Крыніцы». Выступленне салістаў зрабіла прыемнае ўражанне на прысутных.

На сцэне хор Ганцэвіцкага сельскага дома культуры. Каля 80 спевакоў прыехалі прадэманстраваць сваё самадзейнае майстэрства. Мастацкі кіраўнік Яўген Драгун змог не толькі выявіць таленавітых спевакоў, але і прывіў ім любоў да песні, навучыў правільна выконваць іх. Вядома, аднаму Драгуну не пад сілу было б згуртаваць такі вялікі хор. Насустрач яму пайшлі ў Ганцэвічах дырэктар тарфянога прадпрыемства Жалудковіч, а таксама дырэктар мясцовай сярэдняй школы Лагімахаў, які, дарэчы, сам актыўны ўдзельнік самадзейнасці, добры саліст, нядрэнны дэкламатар. Хор выканаў песні «Мая краіна», «Параскінутыя рускія стэпы», беларускую народную песню «Ой, сівы конь бяжыць» і «Заходы».

Прыемна было слухаць трохгалоссе хору. Хораша, задушэўна прагучала песня «Дым Айчыны» ў выкананні самадзейнай артысткі з Ганцэвіч Ноны Вятлугінай.

Нядрэнна выступалі самадзейныя артысты Смалявіцкага і Лагойскага раёнаў, а таксама горада Жодзіна.

**Л. КЛЮНЬКО,**
супрацоўніца раённай газеты «Камуністычная праца».

# ГРАЙ, БАЯН, ХАЙ ПЕСНЯ ЛЬЕЦЦА...

**НАТАТКІ З ФЕСТЫВАЛЮ САМАДЗЕЙНАГА МАСТАЦТВА Ў ВІЦЕБСКУ І ОРШЫ**

НІ АСЕННЯЯ СЛОТА, ні халодны пранізлівы вецер не перашкода тым, хто любіць мастацтва. Дзесяць аўтобусаў, поўных вясёлых звонкіх песень, спыняліся адзін за другім ля параднага пад'езда Віцебскага палаца культуры мясцовай прамысловасці. І адразу здалося, нібы пасвятлела на плошчы — разбегліся чорныя хмары, што зранку завалаклі ўсё неба. З аўтобусаў на плошчу высыпала сама вялікасць — Маладосць — будаўнікі і энергетыкі буйнейшай у рэспубліцы Лукомльскай ДРЭС, знакамітыя хлебаробы і жывёлаводы, навучэнцы і інтэлігенцыя Чашніцкага раёна.

Малады горад энергетыкаў хутка расце і прыгажэе. Разам з ім растуць і харашэюць людзі. Сярод іх ёсць нямала і такіх жыхароў, для каторых захапленне вакалам, музыкай, мастацкім словам, харэаграфіяй стала другой прафесіяй жыцця.

У Віцебск прыехалі намнога раней вызначанага часу, каб крыху асвойтацца, прывесці сябе ў парадак, суняць хваляванне перад адказным выступленнем, прыглядзецца, якую праграму прывезлі іншыя раёны. Бо фестываль — гэта і паказ дасягненняў, і творчае спаборніцтва, і своеасаблівая акадэмія вопыту, дзе ўвачавідкі бачыш здабыткі і страты, радасць поспеху і горыч няўдачы.

У гэтым яшчэ і яшчэ раз пераконваешся, пабыўшы на святочным канцэрце ўдзельнікаў мастацкай самадзейнасці Чашніцкага раёна.

Чатыры масавыя хоры: папярова-кардоннага камбіната, саўгаса «Кашчынскі», калгаса «Чырвоны сцяг» і Лукомльскай ДРЭС узнёсла праспявалі песні савецкіх кампазітараў аб нашай вялікай Радзіме, аб дружбе і братэрстве яе народаў. Заслужаным поспехам карысталіся спявачкі з калгаса «Палац працы».

У праграме канцэрта былі вакальныя ансамблі і салісты, танцоры, чытальнікі, трыо баяністаў. І завяршылася выступленне ўрачыстай велічнай мелодыяй «Слаўся, наша дзяржава» А. Аляксандрава, словы М. Ісакоўскага. Магутнаму трохсотгалосаму зводнаму хору цесна было ў вялікай зале палаца культуры. Песня ўспрымалася як гімн нашай дзяржаве, нашаму ладу, ленінскай партыі, якая вядзе савецкі народ ад перамогі да перамогі.

Калі канцэрт закончыўся, многія з членаў журы кінуліся віншаваць сакратара Чашніцкага райкома партыі Н. Кіндзяеву, загадчыка аддзела прапаганды і агітацыі РК КПБ М. Маркевіча, намесніка старшыні райвыканкома Д. Уласа, якія сядзелі ў глядзельнай зале і былі, бадай, самымі шчырымі «балельшчыкамі» за артыстаў свайго раёна.

— На людзях правяраецца наша работа, — гаворыць Ніна Трафімаўна Кіндзяева. — Мы рады, што канцэрт спадабаўся. Як многа значыць для нашых артыстаў такі шчыры прыём. Цяпер яны павераць у свае сілы. Поспех заўжды акрыляе, але і абавязвае працаваць лепш.

Ніна Трафімаўна далей расказвае, што ў іх раёне звыш трыццаці клубных устаноў. Нямала робіцца, каб у кожным доме культуры і ў клубе згуртаваць самадзейны калектыў. Сёлета шмат увагі аддавалася будаўніцтву клубаў. У юбілейным годзе ўступілі ў строй палац культуры на 360 месц у саўгасе «Чырэя». Пабудавалі клуб у калгасе імя Жданава, заканчваецца будаўніцтва дома культуры ў калгасе «Прагрэс».

Сярод гасцей фестывалю быў і старшыня калгаса «Сцяг перамогі» Сеннескага раёна Аркадзь Паўлавіч Карась. Разам са сваімі артыстамі і ён прыехаў у Віцебск.

— Цікава ўбачыць, як будуць выглядаць калгасныя спевакі на абласным фоне, параўнаць з суседзямі ды іншымі раёнамі, — гаворыць ён.

— Вы задаволены выступленнем свайго калектыву?

— Як вам сказаць: і так, і не. Поспехі ўсё ж відавочныя. У хоры больш за трыццаць спевакоў. Песню ў нас любяць, і хор працуе ўжо больш пяці год. Лепшыя нашы спявачкі — даяркі сёстры Антаніна і Ніна Свіналупавы, Яўгенія Люцко, шафёры-сябрукі Віктары Гнетаў і Шаеў. У хор ходзяць муж і жонка Уладзімір і Таццяна Казловы.

Мы ўдзячны кіраўніку нашага хору Генадзю Харашаеву — добраму калгаснаму будаўніку — за яго энтузіязм, за любоў да песні.

Артысты - аматары калгаса «Сцяг працы» выручылі на фестывалі ўвесь раён. І хор няблага выступіў, і вакальная група, і дуэт... Не было б гэтага калектыву — уражанне ад канцэрта сенненцаў было б горшае.

На фестывалі ў Оршы і Віцебску паўнаўладнай гаспадыняй святочных канцэртаў была песня. Не злічыць салістаў, розных вакальных ансамбляў, якія выступалі ў 12 канцэртах. Большасць хораў — змешаных, але сустракаліся хоры жаночыя і адзін мужчынскі.

Варта нагадаць жаночы хор гарадскога пасёлка Барань і мужчынскі хор Аршанскага завода Легмаш, Дубровенскі гарадскі хор, хор Высокаўскага дома культуры Аршанскага раёна, хоры калгаса «Першае мая» і раённай бальніцы (Талачынскі раён), хор інтэлігенцыі і жаночы вакальны ансамбль «Макі» (гарадскі пасёлак Бешанковічы), мужчынскі вакальны ансамбль саўгаса «Адаменкі» і хор аб'яднання «Сельгастэхнікі» Лёзненскага раёна і многа іншых калектываў; якія зрабілі на абласным фестывалі сур'ёзныя творчыя заяўкі.

Цяжка перадаць словамі, якой іскрыстай радасцю ззяла выступленне на фестывалі звяна ільнаводак Дубровенскага раёна. З нейкай зухаватасцю і лёгкасцю ліліся іх вясёлыя частушкі

Грай, баян, хай песня льецца,
Нашу радасць не суняць,
Добра, весела жывецца
Так і хочацца спяваць.

І мы, гледачы, забыліся, што на сцэне жанкі, у кожнай ёсць дзеці, безліч хатніх клопатаў.

— Вы пытаеце ў мяне, што найбольш запомнілася на фестывалі? — гаворыць народны артыст



Выступае этнаграфічны ансамбль Блужскага сельскага клуба Пухавіцкага раёна.

Фота Ул. КРУКА.

# ЗВІНЯЦЬ НАРОДНЫЯ КРЫНІЦЫ

**Занальныя справаздачныя канцэрты калектываў мастацкай самадзейнасці гарадоў і раёнаў па праграме рэспубліканскага фестывалю самадзейнага мастацтва, прысвечанага 50-годдзю ўтварэння СССР, адбыліся ў Брэсцкай вобласці. У творчым спаборніцтве ўдзельнічала звыш трох тысяч калектываў мастацкай самадзейнасці...**

**Для членаў калгаса імя Леніна Ляхавіцкага раёна, працаўнікоў мясцовага сельпо і камбіната бытавога абслугоўвання заняткі ў хоры — любімы і радасны адпачынак. Ужо ў 1940 годзе самадзейны калектыў калгаса ўдзельнічаў у дэкадзе беларускага мастацтва ў Маскве і заваяваў прызнанне сваім майстэрствам. Заснавальнікам і першым мастацкім кіраўніком хору быў вядомы дзеяч беларускага музычнага мастацтва народны артыст Савецкага Саюза Генадзь Іванавіч Цітовіч.**

**Пінскі народны ансамбль песні і танца «Палессе», якім кіруе І. Смірноў, уважліва вывучае і выкарыстоўвае ў сваёй творчасці народны фальклор. Створаны ў 1960 годзе, гэты таленавіты калектыў ажыццявіў пастаноўку каля 60 танцаў і карагодаў, даў за гэты час звыш 400 канцэртаў. Самадзейныя артысты падрыхтавалі складаныя шматпланавыя харэаграфічныя кампазіцыі «З імем Леніна» і «Арлёнак». Харэаграфічная кампазіцыя «Арлёнак» прысвечана гераічнаму камсамолу. Яна была ўдастоена ганаровага дыплома ЦК ЛКСМБ. Нязменным поспехам карыстаецца карагод «Купалінка», «Палескія ручнікі», «Прывітальная Лявоніха», музычны танец «Жаніхі» і іншыя. Шырока выкарыстаны этнаграфічны матэрыял у танцы «Было калісьці на Палессі». Выканаўчае майстэрства артыстаў-аматараў вызначаецца цікавай танцавальнай і вакальнай культурай.**

**Агульнае прызнанне заваявалі сваім мастацтвам народны ансамбль песні і танца «Брэстчанка» — самадзейны калектыў Брэсцкага электрамеханічнага завода, народная харавая капэла настаўнікаў горада Брэста, маладзёжны народны ансамбль танца «Радасць» і іншыя калектывы.**

**У перыяд падрыхтоўкі да 50-годдзя ўтварэння СССР у вобласці створана каля ста калектываў мастацкай самадзейнасці.**

П. СУСІКАЎ.

рэспублікі Фёдар Шмакаў. — Са здавальненнем адказваю: вакальная група жанчын Ерамееўскага сельскага дома культуры Дубровенскага раёна. Гэта — сапраўдная народная самадзейнасць, не прыхарошаная, не прычэсаная рознымі апрацоўкамі. Можна толькі пазайздросціць калгасніцам-ільнаводкам — іх імпэту, весялосці, улюбёнасці ў народную песню, умельству тонка, артыстычна перадаваць яе хараство...

Артысты-аматары з Віцебскага раёна парадавалі танцамі. Як вядома, харэаграфічны жанр у сельскіх калектывах не вельмі распаўсюджаная з'ява. Але віцябляне заявілі сябе неблагімі танцорамі. Удзельнікі мастацкай самадзейнасці Бабініцкага, Каралёўскага, сельскіх дамоў культуры, Лятчанскага сельскага клуба, вёскі Руба-2 выканалі на фестывалі «Лявоніху», «Крыжачок», «Бульбу», «Гапак» і іншыя танцы. Прыкметны плённы ўплыў раённага дома культуры і яго народнага ансамбля танца «Колас», калектыў якога клапоціцца аб тым, каб харэаграфічнае мастацтва развівалася і на вёсцы.

Увага да сельскіх калектываў добра праявілася на фестывалі і ў Аршанскім раёне. Як вядома, тут няма свайго раённага дома культуры, і тым не менш аддзел культуры здолеў так арганізаваць справу, што на фестывалі з поспехам выступілі дзесяць сельскіх самадзейных калектываў.

Калі Віцебскі раён мы ўмоўна назвалі танцавальны, то Оршу можна назваць горадам музычным. На фестывалі паспяхова выступілі аркестр баяністаў, чатыры эстрадныя і духавы аркестры. Парадаваў сваім выступленнем зводны духавы аркестр.

Пра фестываль у Оршы і Віцебску можна было б многа пісаць. Але ў кароткіх нататках не раскажаш пра ўсё, што адбывалася на гэтым святочным парадзе народных талентаў. Важна ўсвядоміць адну простую ісціну — самадзейнае мастацтва дапамагае кожнаму чалавеку і перш за ўсё моладзі абудзіць у сваёй душы крылы творчасці, далучае яго да вялікага свету прыгожага. У гэтым нас пераканаў абласны занальны фестываль на Віцебшчыне.

Я. ДАНСКАЯ,
спецыяльны карэспандэнт «Літаратуры і мастацтва».

# ДЗВЕСЦЕ ПЛЮС ЧАТЫРЫ

*Ігар Лучанок за песні пра Радзіму, партыю і камсамол атрымаў прэмію Ленінскага камсамола. Наш карэспандэнт сустрэўся з кампазітарам і папрасіў яго расказаць пра сваю работу.*



Ігар Лучанок дае аўтографы.
Фота Ул. КРУКА.

— Як многа песень, здавалася б, меладычных, з нядрэннымі тэкстамі, напісаных па ўсіх законах жанру, знікаюць хутка пасля свайго нараджэння, нібыта іх і не было. А іншыя жывуць і жывуць. Праходзяць дзесяцігоддзі, а часам і стагоддзі... У чым сакрэт? Мне думаецца, хутка губляецца цікавасць да песень неарыгінальных, пераймальных, у нейкай ступені несамастойных. Можна няблага пісаць песні пад Дунаеўскага, Фрэнкеля, Бабаджаняна, а жыць застаюцца менавіта іх песні. Каб дасягнуць поспеху, трэба мець свой голас, які не зблытаеш з тысячамі іншых. І натуральна, што тэмы свае кампазітар павінен чэрпаць з народнага жыцця, абапірацца на інтанацыі роднага меласу. Менавіта тут я і шукаю. Толькі цяжка самому разабрацца, што ўдалося, што не...

У пошуках мне нямала дапамагаюць выканаўцы. Напрыклад, творы для «Песняроў» мы аранжыруем разам з Уладзімірам Мулявіным. Наогул, мне вельмі падабаецца гэты арыгінальны калектыў, з якім я хацеў бы сябраваць і далей. Зрэшты, ён падабаецца не толькі мне. У многім дзякуючы яму беларуская песня шырока загучала па ўсёй нашай краіне. Зараз ансамбль гастралюе ў Чэхаславакіі. Там прагучалі ў яго выкананні і дзве мае новыя песні — «Балада аб Маскве» на словы Анатоля Вялюгіна і «Ціхі вечар, сумны ранак» (словы народныя). З задавальненнем працягваю працаваць з маімі даўчімі сябрамі — салістамі Тамарай Раеўскай, Віктарам Вуячычам, Валерыем Кучынскім, Анатолем Падгайскім, Юрыем Смірновым...

Званкі... Яны ўвесь час перапыняюць нашу размову. На гэты раз — з кінастудыі. Высвятляецца нейкае пытанне адносна музыкі, якую кампазітар піша да фільма пра беларускіх партызан (яго здымае на аб'яднанні «Летапіс» рэжысёр І. Вейняровіч). Потым — з філармоніі. Там ідзе рэпетыцыя песні Лучанка «Калі б камні маглі гаварыць», якая будзе выконвацца ў Маскве на ўрачыстым вечары, прысвечаным 50-годдзю ўтварэння СССР. Зноў звачок. На гэты раз у дзверы — тэлеграма з Ленінграда. Запрашаюць удзельнічаць у канцэртах музыкі народаў СССР, што будуць праходзіць у Кастрычніцкай зале.

Дзіву даешся, як яго на ўсё хапае. У верасні з групай вядомых музыкантаў прапагандаваў савецкую песню ў Мюнхене, на алімпійскіх гульнях. Пазней сустракаўся са студэнтамі БДУ імя Леніна, культработнікамі, школьнікамі, воічамі, выязджаў у Докшыцы і Мар'іну Горку. Усіх сустрэч не пералічыць, як не пералічыць і ўсіх запрашэнняў. Два бліжэйшыя візіты — у Маскву: на «чацвер» «Комсомольской правды» і на традыцыйную перадачу Цэнтральнага тэлебачання «Песня-72».

У Ігара Міхайлавіча шчаслівы характар. Ён — вясёлы, жыццярадасны, уважлівы і добразычлівы. Гатовы адгукнуцца на просьбу вядомага пісьменніка і школьніка, паспачуваць, дапамагчы ў бядзе і — пасмяцца вясёламу жарту. Шчыры і адкрыты, ён умее радавацца поспеху калегі. Усё гэта, мне здаецца, ідзе ад багацця таленавітай натуры, ад унутранай патрэбы дзяліцца з людзьмі ўсім, што ён мае.

А мае ён шмат. Задумы і ідэі перапаўняюць яго.

— Вось паслухайце, якую песню я пачаў пісаць на словы Сяргея Васільева. Гэта будзе балада пра Кубу. Ад Кубы ў мяне засталіся цудоўныя ўражанні, і мне ўвесь час хацелася што-небудзь пра яе напісаць. І вось...

Ён садзіцца за піяніна і напявае яшчэ не закончаную, але ўжо акрэсленую, знойдзеную мелодыю.

— Калі атрымаецца, прапаную яе на фестываль камсамольскай песні. А яшчэ я пішу тры турысцкія песні — пазайздросціў самадзейным аўтарам - турыстам, песні якіх ахвотна спявае моладзь. Уяўляеце, напісаў адну такую песню («Мы верныя бацькоўскай памяці») да турысцкага злёту ў Баранавічах. Здаецца, нідзе, апрача як каля кастра, яна і не выконвалася. І я быў шчыра задаволены, калі сёлета на такім жа злёце пад Барысавам пачуў яе ад гродзенскіх дзяўчат. Свае новыя песні пішу з улікам магчымасцей гітары.

Але, думаю, на нейкі час песню пакінуць. Займуся вубочай. Паспрабую сябе ў сімфанічным і вакальна-сімфанічным жанрах.

Святлана КЛІМКОВІЧ.

# УРАЖАННІ З ФОРУМУ Ў ТАШКЕНЦЕ

НЯДАЎНА ў Ташкенце праходзіла навуковая музычная канферэнцыя на тэму «Музычнае мысленне і музычнае ўспрыманне». Яна прыцягнула да сябе ўвагу не толькі музыказнаўцаў, але і спецыялістаў па філасофіі, псіхалогіі і мовазнаўству.

**Зварот вучоных рознага профілю да такой шырокай і жыццёва неабходнай праблематыкі ўжо сам па сабе вельмі знамянальны, тым больш, што вядучай тэндэнцыяй большасці дакладаў было выкарыстанне перадавых, сучасных метадаў даследавання. Для многіх удзельнікаў канферэнцыі дэвізам маглі б стаць словы вялікага Леанарда да Вінчы, якія адкрываюць яго Кнігу пра жывапіс і некалі былі ўзяты С. Танеевым у якасці эпіграфа да манаграфіі аб кантрапункце: «Ніякае чалавечае даследаванне не можа паважацца сапраўднай навукай, калі яно не выкладзена матэматычным спосабам выражэння». Сапраўды, вучоныя, якія прыехалі ў сталіцу Узбекістана з розных гарадоў нашай краіны — Масквы, Ленінграда, Свярдлоўска, Растова, Кіева, Мінска, а таксама з розных рэспублік Сярэдняй Азіі і Казахстана — прапаноўвалі ў сваіх дакладах аб'ектыўны, матэматычна-дакладны крытэрый даследавання музычных з'яў, імкнуліся да максімальнага доказу сваіх палажэнняў. Такі матэматычны падыход, натуральна, быў кіруючым у дакладах тых музыказнаўцаў, якія прапаноўвалі апрацоўку матэрыялу на электронна-вылічальных машынах. Гэта перш за ўсё даклады А. Міллі (Ленінград) аб вывучэнні ладавых сістэм народнай музыкі розных нацыянальных культур, і В. Цеханскага (Свярдлоўск) аб даследаванні гармоніі розных кампазітарскіх стыляў.**

Як вядома, сіметрыя, гэта ў аснове сваёй матэматычная заканамернасць, шырока праяўляе сябе і ў галіне мастацтва, у прыватнасці, і ў музыцы. Аналізу з'явы сіметрыі на ўзроўні меладычных і ладавых утварэнняў, тэматызму і музычнай формы быў прысвечаны даклад Л. Аляксандравай (Новасібірск).

Значнае месца на канферэнцыі займалі даклады, прысвечаныя ўсходняй манодыі. Заканамернасці яе будовы, рытму і развіцця многія дакладчыкі імкнуліся асвятліць таксама пры дапамозе матэматычнага метаду. Так, вывучаючы варыяцыйнасць узбекскай манодыі, С. Галіцкая (Ташкент) прапанавала ўвесці лічбавыя паказчыкі для ступені вар'іравання розных яе бакоў — гукавышынны, рытмічны і ладавы. Праводзячы аналіз на ўзроўні кароткіх пабудоў і памнажаючы паказчыкі на лік падобных пабудоў у закончанай мелодыі, дакладчыца імкнулася ўстанавіць крытэрый для вызначэння большай ці меншай інтэнсіўнасці варыяцыйнага працэсу.

У адным з дакладаў (Ю. Плахава, Ташкент) разглядалася форма інструментальных частак узбекскіх макомаў — гэтых манументальных твораў сярэдневяковай культуры Усходу. У пабудове формы макомаў, дакладчык прадэманстраваў захаванне строгіх матэматычных прапорцый. Гэта адбіваецца і ў размяшчэнні кульмінацыі ў пункце залатога сячэння і ў правільным змяненні маштабаў абнаўляемых пабудоў. Як паказаў дакладчык, гэтыя рысы былі тыповыя і для іншых галін мастацтва далёкага мінулага — архітэктуры, прыкладнога мастацтва (у прыватнасці, арнаменту), вершаскладання.

**У крыху больш звычайным «не матэматычным», а хутчэй за ўсё інтанацыйным аспекце была прадстаўлена на канферэнцыі важная тэма аб сувязі народнага і прафесійнага мастацтва. Такі інтанацыйны падыход займаў вядучае месца ў дакладзе Н. Янаў-Яноўскага (Ташкент) аб нацыянальных высотах сімфанізма ва Узбекістане і ў дакладзе Н. Юдзеніч (Мінск) — аб фальклорных элементах гармоніі Свірыдава. Значная ўвага ўдзелена была на канферэнцыі вывучэння асобных фальклорных жанраў (даклады Г. Абдулаева, О. Мацякубава).**

Надзвычай абагуленая тэматыка ташкенцкай канферэнцыі («Музычнае мысленне і музычнае ўспрыманне») прыцягнула ўвагу не толькі музыказнаўцаў, але і спецыялістаў па філасофіі, псіхалогіі і мовазнаўству. Так, напрыклад, навуковы супрацоўнік інстытута псіхалогіі АН СССР Г. Тарасаў выступіў з дакладам аб структуры музычнага перажывання. Аналізуючы гэтую спецыфічную галіну чалавечых эмоцый, дакладчык імкнуўся даказаць, што музычнае перажыванне ёсць «адна з вышэйшых форм выражэння прыроднай і сацыяльнай сутнасці чалавека».

Цікава прасачыла К. Назарава (Масква) эвалюцыю ўнутранай формы слова ў назвах музычных інструментаў; некаторыя аспекты мастацкага мыслення з пазіцый сістэмнасці асвятліў Г. Саладоўнікаў (Свярдлоўск).

Спецыфічныя асаблівасці мастацкага мыслення прыцягнулі таксама ленінградскага музыказнаўцу М. Араноўскага, які прапанаваў даклад на тэму «Аб структуры творчага працэсу». У ім на падставе аналізу нотных рукапісаў М. Глінкі, П. Чайкоўскага, С. Рахманінава, аўтарызаваных сведчанняў і іншых матэрыялаў дакладчык імкнуўся ўстанавіць розныя стадыі ў вырашэнні творчай задачы. Даклад выклікаў ажыўленую дыскусію, ініцыятарамі якой былі кампазітары.

**Пытанні музычнага ўспрымання закранalі на канферэнцыі многія яе ўдзельнікі. У спецыфічным асвятленні паўстала гэтая праблема ў вялікім дакладзе В. Медушэўскага (Масква). Даследчыка ў дадзеным выпадку прыцягнула камунікатыўная функцыя музыкі, тыя яе «рытарычныя» ўласцівасці, якія забяспечваюць найлепшае, аптымальнае ўспрыманне зместу аўдыторыяй. У сваім дакладзе Медушэўскі аналізаваў прыёмы кампазітарскага пісьма, апеляваныя да законаў чалавечай псіхалогіі (прыёмы падкрэслівання, лагічнага выдзялення, прадвяшчання і г. д.), а таксама прыёмы, народжаныя асаблівасцямі часовага разгортвання музыкі — прыём экспазіцыйнай канцэнтраванасці, паступовага развіцця, заключнага рэзюмавання. У цеснай сувязі з задачай акту ўспрыняцця дакладчык прапанаваў выпрацаваць крытэрый кампазіцыйнага ўдасканалення музычнага твора.**

У ходзе ажыўленай дыскусіі, якая завяршыла канферэнцыю, неаднаразова выказвалася думка, што на стыку такіх важных і перспектыўных галін сучаснай навукі, як псіхалогія, тэорыя інфармацыі, структуралізм, матэматычная лінгвістыка і г. д. павінна плённа развівацца савецкае музыказнаўства.

Н. ЮДЗЕНІЧ.

ВІНШУЕМ З ЮБІЛЕЕМ!

АЛЯКСЕЮ РУСЕЦКАМУ — 60



*4 снежня споўнілася 60 год з дня нараджэння вядомага беларускага паэта Аляксея Русецкага. З гэтага выпадку праўленне Саюза пісьменнікаў БССР звярнулася да юбіляра з прывітаннем, у якім гаворыцца:*

«Дарагі Аляксей Сцяпанавіч!

Горача, па-сяброўску вітаем Вас у дзень Вашага шасцідзесяцігоддзя.

Нам прыемна ўсведамляць, што сваю гадавіну Вы сустракаеце багатым паэтычным набыткам, што на Вашым творчым рахунку — вершы і паэмы, якія займаюць адметнае месца ў сённяшняй беларускай паэзіі. З тонкім адчуваннем слова, з глыбокім філасофскім пранікненнем у тэму напісаны Вашы апошнія паэмы «Яго вялікасць», «Маналог зямлі», Вашы новыя вершы. Такая іх асаблівасць, як сплаў мастацка-вобразнага і навукова-даследчыцкага мыслення, паказвае новыя магчымасці нашай паэзіі ў асэнсаванні сучаснага жыцця.

Знаходзіце Вы таксама час і для актыўнай грамадскай дзейнасці. Працуючы шмат гадоў літаратурным кансультантам Саюза пісьменнікаў. Вы многа зрабілі для выхавання творчай моладзі. Аўтарытэтам і павагай карыстаецеся Вы і як намеснік рэдактара часопіса «Полымя». З'яўляючыся старшынёй праўлення Бюро прапаганды мастацкай літаратуры Саюза пісьменнікаў, Вы аддаяце нямала ўвагі прапагандзе і папулярызацыі беларускай літаратуры, арганізацыі сустрэч пісьменнікаў з чытачамі.

Жадаем Вам, дарагі Аляксей Сцяпанавіч, моцнага здароўя, новых творчых задум і здзяйсненняў, шчаслівага асабістага жыцця».

*Рэдакцыя штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» далучаецца да гэтага віншавання і жадае юбіляру новых творчых поспехаў.*

# А МАРЫ, ЯК ЧАЙКІ, НА СВОЙ МАЯК ІМКНУЦЦА...

ПІСАЦЬ ПРА СЯБРА, з якім не адзін год ідзеш па зямлі Паэзіі не так ужо і лёгка. І не таму, што зблізку губляецца выразнасць абрысаў і трэба адысціся воддаль, каб яны лепш адкрыліся твайму погляду. Зусім, не. Цяжкасць у іншым. Пакольні гэта толькі слова пра сябра, а не грунтоўнае даследаванне яго творчасці, дык табе давядзецца з мноства жыццёвых фактаў выбраць найбольш характэрныя. І вось тут ты не застрахаваны ад таго, каб не прапусціць чаго-небудзь істотнага, характэрнага. А за шэсцьдзесят год жыцця пражыта нямала, перажыта — яшчэ больш.

На долю нашага пакалення, да якога належыць і Аляксей Русецкі, выпала нямала выпрабаванняў. Юнацтва выпрабоўвала нас на шчырасць і трываласць, камсамол правяраў на вернасць і адданасць камуністычным ідэалам, Вялікая Айчынная вайна правярала нас, ужо як камуністаў, на мужнасць і здольнасць аддаць усяго сябе нялёгкай Перамозе. У кожным узросце і на кожным адцінку часу даставалася сваё, і заўсёды — не самае лёгкае.

Пазнанне новага жыцця, засваенне яго светлых ідэалаў пачыналася для Русецкага яшчэ са школьных год, калі ён уступіў у піянеры.

«Няважна, што хуліганістыя хлопцы нас хапалі за гальштукі, — піша ў сваёй аўтабіяграфіі А. Русецкі. — Поле бою часцей за ўсё пакідалі не мы, піянеры, а яны».

Разам са старэйшымі таварышамі, камсамольцамі, Алёша Бурдзялёў (псеўданім Русецкі ён абярэ пазней, калі літаратурная праца стане асноўным заняткам у жыцці) удзельнічае ў пастаноўцы спектакляў, як «артыст», а, як «паэт». піша для вуснай газеты вершы, у якіх высмейвае самагоншчыкаў, п'яніц, хабарнікаў, бюракратаў.

«Тады я адчуў сілу вершаванага слова. Неўзабаве атрымаў першы «ганарар».

Які гэта быў «ганарар», вы, відаць, здагадваецеся самі. У той час «пакрыўджаныя» не вельмі грэбавалі сродкамі.

«У клуб у час рэпетыцыі чарговага спектакля ўварваліся п'яныя бамбізы і надавалі па карках «артыстам». Мне дасталося больш за ўсіх».

Аднак такая «плата» не збянтэжыла вясковага хлапчука. Наадварот, пераканала ў праваце справы, надала яму сілы для барацьбы за светлыя ідэалы. Вось толькі не хапала ведаў. Адчувалася патрэба ў навуцы. І хлопцы ў даматканых світках, не зважаючы на кепікі сынкоў багацеяў, рушылі здабываць веды. Куды ісці вучыцца — было не так важна. важна было — вучыцца. І Аляксей пасля шостага класа па пуцёўцы райкома камсамола ідзе на трохмесячныя падрыхтоўчыя курсы, заканчвае іх і паступае ў Аршанскі белпедтэхнікум. Годы, як і падзеі, мяняюцца хутка. Настаўнічаць не давялося. Паехаў у Маскву. Паступіў у заавецінстытут. Закончыў і адразу на практыку ва Узбекістан. «Верхам на кані... вандраваў тры месяцы па кішлаках Ферганскай даліны». А няўрымслівая натура прагла новых прастораў. Ненадоўга затрымаўся і ў Маскоўскім мікрабіялагічным інстытуце. Прывабілі Краснаярскі край і Хакасія. Паехаў працаваць туды. І толькі ў пачатку 1938 года трапляе ў Беларусь. А праз тры гады пачынаецца вайна. Разам з многімі мінчанамі праз полымя і дым, пад бамбёжкамі фашысцкіх самалётаў і абстрэламі дыверсантаў выбіраецца ён на Маскоўскую магістраль. На душы неспакойна. Цяпер ужо не да вершаў. Рашаецца большае — лёс Радзімы. І як бы ні было горка за першыя ваенныя няўдачы, паэта ні на хвіліну не пакідае вера ў Перамогу. Дзеля яе ён у якасці афіцэра пройдзе доўгія франтавыя дарогі і сустрэне апошні дзень вайны паблізу Рыгі, у Курляндыі. Дадому ў Мінск вернецца толькі ў 1947 годзе, пасля паходу праз высокі Хінган і паўтарагадовай армейскай службы ў Порт-Артуры.

Некалі ў бясклопатныя гады маладосці паэта вабіла рамантыка падарожжаў. Хацелася як мага больш пабачыць свету. Цяпер гэтага свету ён нагледзеўся ўдосталь. І ўжо ў Порт-Артуры са шчымлівай тугою адчуў, як яму не хапае роднага паветра. Адплываючы з далёкага порта Японскага мора, ён ужо не можа стрымаць душэўных пачуццяў.

...А мары, як чайкі, на свой
маяк
імкнуцца да ўзгоркаў сініх.
Спытайце, сябры, ў карабля,
і той,
што ў бурах ссівеў—бывалы,—
ён скажа, як хочацца мне
шчакой
да родных прыпасці прычалаў.

«Зямля, свет пачынаецца для кожнага з яго незабыўных родных мясцін». Так адкрывае Аляксей Русецкі сваю аўтабіяграфію ў кнізе «54 дарогі». Пачаткам «зямлі» і «свету» паэта быў родны Студзянец на Магілёўшчыне, дзе «на ўзлессях стаялі калісьці векавыя дрэвы з борцямі, на супесках улетку цвілі грэчкі і на дне невялікіх рэк чарнелі магутныя дубы, паваленыя даўнімі разводдзямі». Цяпер ён спяшаўся да гэтага «свету», гэтай «зямлі». Спяшаўся, хоць адчуваў — шмат чаго змянілася там. Прыгадваліся першыя дні вайны, палаючы Мінск, здратаваныя танкамі нівы.

Чула сэрца маё іх пякучае
гора,
ад якога
збавення не знойдзеш і ў сне —
я імчаўся ў разбураны
родны горад,
дзе чакаць не было каму дома
мяне.
Ехаў, з горам такім не сядзець
у закутку,
а гарачыя рукі прыкласці да
спраў.
Не кажу, колькі ціха
глынуў я смутку
і начэй не даспаў.

Толькі далёкая пара маленства з яе мірным громам, што будзіў хлапчука на начлезе, абуджала светлыя пачуцці. Успаміналася зялёная Магілёўшчына.

Яшчэ ляжыць там шмат маіх
падушак—
Грудкоў і купін, на якіх я мог
і мармытанне ўчуць начных
дарог,
і піск травінкі,
і трызненне птушак.

За іх вялікія пакуты заплочана на вайне, заплочана крывёю лепшых сяброў. Сумленне франтавіка не магло не аддаць ім належнай пашаны.

Вяснянкі-краскі, сядзьце ўсе
наўкол,
абвіце ўзгорак жоўты, шэры
камень,
няхай пад ім учуюць, як на
дол
кладуцца сэрцы нашыя з
вянкамі.

З пачуццём споўненага сыноўняга абавязку перад Радзімай у маі 1947 года вяртаецца паэт на сваю зямлю, якую сніў «без акопаў, пажарышчаў...» У сапраўднасці яна была не такой — была з акопамі, руінамі, пажарышчамі. Давялося расставацца са снамі і прымаць яе такою, як яна ёсць. Прымаць, каб зрабіць такою, якой бачылася ў сне, а, можа, нават крыху лепшай, асветленай промнямі будучыні. Дзеля гэтай будучыні і стараецца паэт, не шкадуючы сваіх сіл. З-пад яго пяра адна за адною выходзяць кнігі паэзіі «У заўтрашні свет», «Святло акон тваіх», «Усход і Захад», «Служба святла», паэма «Яго Вялікасць» і іншыя кнігі. У іх — пульс яго душы, трывог, роздуму, надзей, хваляванняў, шлях да адкрыцця і пазнання новых жыццёвых ісцін.

Пасляхова робіць Аляксей Русецкі і на паэтычнай ніве і на ніве рэдактарскай, працуючы намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Полымя». Але апрача гэтага, як і ў кожнага з нас, ёсць у яго і свая запаветная мэта.

Мне б кнігу напісаць,
каб ад яе, з вітрыны,
пачуўся белы сад
і покліч жураўліны.

Што ж, ад самага шчырага сэрца пажадаем яму напісаць гэтую кнігу. А заадно, для пасляховага завяршэння такой працы пажадаем паэту традыцыйнага добрага здароўя, доўгіх год жыцця і няспыннага творчага гарэння.

**Алесь БАЧЫЛА.**

БУДНІ КУЛЬТАСВЕТУСТАНОЎ

# НАШ ПАЛАЦ КУЛЬТУРЫ

...МЫ СТАІМ ля п'едэстала, на якім узвышаецца «Беларусь» з мемарыяльным пашпартам: дата нараджэння першынца— 14 кастрычніка 1953 года. Хведар Конанавіч Самусеў пранікнёна гаворыць:

— Далёка пайшлі наперад... Уладзімір Ільіч Ленін марыў усяго пра сто тысяч трактараў. А тут адзін толькі наш завод даў мільён!

Міма нас цячэ рабочы паток. А вечарам, пасля працоўнай змены рабочыя прыйдуць на агеньчык палаца культуры. Ды не па адным, а цэлымі сем'ямі прыйдуць.

...Што новага ў культуры?

Я ведаю, пра гэта Самусеў абавязкова спытае пры сустрэчы. А што, уласна, у нас можа быць невядома яму, рабочаму, калі толькі ўчора ён сам быў у палацы, і мне запомнілася, як нейкі хлапчына скептычна заўсміхаўся:

— А падобны...

Гэта юнак параўноўваў жывога Самусева з яго фатаграфіяй на стэндзе музея. Тысячы такіх навічкоў штогод прыходзяць на завод. У іх на руках —школьны атэстат; у іх за плячыма пакуль няма працоўнай біяграфіі. І вось юнакоў, заклапочаных, з каго рабіць сваё жыццё, мы запрашаем да сябе ў палац, знаёмім іх з кадравымі рабочымі, настаўнікамі— з тымі, хто дапаможа навічкам прыкіпець сэрцам да рабочых прафесій.

— Прыйду. Пагутару з хлопцамі, — звычайна гаворыць Самусеў. — Сам калісьці быў навічком... Але тады не было ў нас вечароў прысвячэння ў рабочыя.

І ён прыходзіць, але не адзін, а з Героямі Сацыялістычнай Працы гальванікам Розай Прусавай, штампоўшчыцай Галінай Мягкавай і слесарам-лякальшчыкам Яўгенам Клімчанкам, са сталяварам Андрэем Бялко, у якога на грудзях ордэн Леніна. Каваль Самусеў сам кавалер Залатой Зоркі.

Свае клубныя вечары з удзелам цэлага сузор'я правафланговых працоўнай вахты праводзім не зусім звычайна. Тут не патрэбна сцэна з традыцыйнай трыбунай, мы выклікаем людзей на шчырую, адкрытую гаворку. Ветэранаў і моладзь запрашаем у музей гісторыі і працоўнай славы завода.

Быццам зачараваныя, хлопцы знаёмяцца з летапісам беларускага трактарабудаўніцтва —ад першага падмурка да нараджэння мільённага трактара «Беларусь», які шырока вядомы не толькі хлебаробам нашай краіны, але і экспартуецца ў 60 замежных дзяржаў. «Беларусь» атрымаў дзяржаўны Знак якасці, а працоўныя традыцыі славутага заводскага калектыву вянчаюць найвышэйшыя ўзнагароды Радзімы — ордэн Леніна, ордэн Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Багаты музей працуе непасрэдна пад дахам палаца «мільянераў», дзе сістэматычна выхоўваецца маладое пакаленне трактарабудаўнікоў. У яго экспазіцыях паказаны рабочы шлях тых, каго хлопцы, затаіўшы дыханне, цяпер слухаюць. Гэта каваль Іван Тузін, расточнік Мікалай Еераснёў, сталявар Валянцін Шчарбіна.. На заводзе яны інструктары патрыятычнага руху «Пяцігодку — за 4 гады! Пяцідзённы рабочы тыдзень выконваць за чатыры рабочыя дні!»

Работнікі культуры моцна сябруюць з лепшымі людзьмі вытворчасці. Каштоўнасць гэтых нашых сувязей у тым, што рабочыя за заводскай прахадной, пасля працоўнай змены, у сценах свайго роднага палаца працягваюць займацца эканомікай, лічыць плюсы і мінусы сваёй работы. Трактарабудаўнікі жывуць адной марай: разам працуем, вучымся, адпачываем! Мы не назіраем збоку, куды ад прахадной накіруецца наш сябра-рабочы, што ён будзе рабіць у вольны час. А часу вольнага, як вядома, стала болей. Палац не толькі ўтульны куток адпачынку з танцамі. Тут вольны час запаўняецца творчай актыўнасцю, уласцівай трактарабудаўнікам ва ўмовах вытворчасці; тут яны атрымліваюць духоўны зарад вытворчай і грамадска-палітычнай актыўнасці.

Пабываем яшчэ на адным цікавым вечары «мільянераў» і паглядзім, што ж яны робяць у сваім палацы, калі ўспыхваюць вячэрнія агні? Сёння адбылося віншаванне рабочай дынастыі Уладзіміра Іванавіча Бессмяротнага, Уладзіміра Леанідавіча Мядзведскага і Івана Канстанцінавіча Халадзінскага, якія са сваімі сем'ямі прысвяцілі роднаму заводу ў агульнай складанасці амаль 200 год працоўнага жыцця. Старэйшыя ў сям'і закладвалі МТЗ у першы цяжкі і гераічны пасляваенны год. Работнікі культуры адшукалі ў іх сямейных архівах і падрыхтавалі змястоўныя выстаўкі аб рабоце, вучобе, адпачынку, творчасці патомных дынастый, прасачылі пераемнасць пакаленняў, паказалі, як сыны ветэранаў з гонарам працягваюць эстафету сваёй вялікай радаслоўнай.

Васемсот чалавек, якія сабраліся ў той памятны вечар у залітым агнямі палацы, сустракалі віноўнікаў урачыстасці. На гэтым сямейным свяце Самусеў і Прусава праз жывы калідор глядзельнай залы пранеслі на ўпрыгожаную сцэну сцяг завода.

Былі кветкі, вершы, усмешкі, сардэчныя віншаванні і пажаданні, сувеніры. Калектывы мастацкай самадзейнасці прысвячалі знатным людзям свае лепшыя канцэртныя нумары. І вось надышла ўрачыстая цішыня, калі ветэраны ўручаюць маладым рабочым наборы інструментаў з наказам быць вартымі старэйшых пакаленняў трактаразаводцаў.

З вечароў, пра якія я расказаў, і складаецца каэфіцыент карыснага дзеяння клубнай работы. Поспех залежыць ад ініцыятывы, выдумкі і пошукаў работнікаў культуры ў цесным кантакце з працоўным калектывам. Палац «мільянераў» ніколі не пустуе: у год тут праводзіцца 900 самых разнастайных мерапрыемстваў. У рабоце нам ахвотна дапамагаюць інжынеры С. Дзядкоў, Р. Ігнатовіч, Е. Ханіна, В. Вастроў, С. Жыдкоў, дзесяткі іншых энтузіястаў культурнага фронту. Сябры і дарадчыкі дапамагаюць свайму палацу ў выбары культурна-масавай тэматыкі, дыферэнцыявана падыходзіць да розных катэгорый працаўнікоў з улікам іх прафесій, узростаў, эстэтычных густаў. Шмат цікавага ў палацы культуры. Пахадзіце па паверхах — і вы сустрэнеце сталых наведвальнікаў маладзёжных клубаў «Сучаснік» і «Рамантыкі», аматарскіх аб'яднанняў па інтарэсах: кінастудыі «Трактар», студыі выяўленчага мастацтва, клуба жанчын-работніц «Сяброўкі», школы сучаснага бальнага танца. А вось у сваіх навучальных аўдыторыях займаюцца слухачы васьмі факультэтаў народнага універсітэта. Тут атрымліваюць веды па розных галінах навукі, тэхнікі, культуры, унутраным і міжнародным жыцці. За ўсёй гэтай напружанай творчай працай стаіць сухая статыстыка: 3000 — столькі чалавек бывае ў палацы штодзённа.

**І. СУХАРУКАЎ,**
загадчык метадычнага кабінета палаца культуры Мінскага трактарнага завода.

# ГЕНІЙ СЛАВЯНШЧЫНЫ

*(250-ГОДДЗЕ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ РЫГОРА СКАВАРАДЫ)*

У небагатай сям'і казака ў сяле Чарнухі на Палтаўшчыне нарадзіўся 3 снежня 1722 года Рыгор Скаварада. Адукацыю атрымаў ён у Кіеўска-Магілянскай акадэміі. Асабліва захапляўся Скаварада антычнай філасофіяй, а таксама філасофіяй Дэкарта, Лейбніца, Вольфа. Старанна вывучаў ён і мовы: лацінскую, старагрэчаскую, еўрапейскія. І цяпер вядомыя яго пераклады Вяргілія, Авідыя, Гарацыя, твораў французскай паэзіі.

Рыгор Скаварада меў цудоўны голас. Ён быў і кампазітарам — яго песні адразу ж ішлі ў народ у выкананні кабзароў. Тарас Шаўчэнка ў аповесці «Блізняты» характарызуе Скавараду не толькі як паэта-філосафа, але і як здольнага музыканта.

У 1753 годзе Рыгора Скавараду запрасілі выкладчыкам паэтыкі ў Пераяслаўскі калегіум на Кіеўшчыне. Да канца дзён сваіх ён любіў педагагічную дзейнасць. У 1753—54 гадах напісаў падручнік «Рассуждение о поэзии и руководство к искусству оной», у якім выступіў супраць схаластыкі, за найцяснейшую сувязь мастацтва з патрэбамі шырокіх колаў народа. Тут і пазней у Харкаўскім калегіуме свецкія і духоўныя ўлады ўсяляк прыцяснялі самага адукаванага дэмакрата свайго часу, паэта, які быў папярэднікам Івана Катлярэўскага і Тараса Шаўчэнкі. Ён вымушаны быў пакінуць калегіум і амаль трыццаць год пешшу, з посахам і флейтай хадзіў па Украіне і Расіі, прапагандуючы свае філасофскія погляды.

Памёр класік украінскай і сусветнай літаратуры 9 лістапада 1794 года ў сяле Іванаўцы. Цяпер гэтае сяло — Скаварадзінаўка Залачэўскага раёна на Харкаўшчыне.

Багатую спадчыну пакінуў асветнік. У філасофскіх трактатах «Колца», «Размова, якая называецца алфавіт, або Буквар свету» і іншых у аснове— упэўненасць, што народ здабудзе сабе шчасце, пазбавіўшыся ад тыранаў.

Вершы Рыгора Скаварады 1753—1758 гадоў аб'яднаны ў зборніку «Сад боскіх песняў». Ён выкрывае няпраўду ў тагачасным грамадстве, заклікае да маральнага самаўдасканалення. Выйшаў таксама зборнік «Байкі харкаўскія». Магутная народная стыхія ў светапоглядзе юбіляра вызначыла і арыгінальнасць яго твораў, якія кабзары разносілі па ўсёй Украіне. Прыгонніцтва назваў ён «недарэчнасцю несусветнай», асуджаў яго, у сатырычных вобразах паказваючы паноў і чыноўнікаў.

Вельмі дабратворны быў уплыў Рыгора Скаварады на развіццё грамадскай думкі, мастацкай творчасці і безыменных кабзароў, і вядомых паэтаў. Тарас Шаўчэнка ў страснай антыцарскай, антыпрыгонніцкай паэме «Сон» (1844) перагукаецца са скаварадзінскай песняй «Усякаму гораду нораў і права», значна ўзмацняючы сацыяльнае асуджэнне заваяваццеляў чужых зямель, класавых эксплуататараў знутры краіны.

Пісьменнікі іншых народаў неаднаразова засведчылі значную цікавасць да Рыгора Скаварады. Буйны рускі славяназнаўца акадэмік Ізмаіл Сразнеўскі ў 1836 годзе надрукаваў аповесць «Маёр, маёр» пра Рыгора Скавараду. Леў Талстой каля сарака гадоў збіраў матэрыялы аб філосафе-паэце і ў 1906 годзе напісаў артыкул пра яго. Мікалай Ляскоў, Максім Горкі вывучалі творчасць вандруючага настаўніка мудрасці.

Далёка за межы роднай



зямлі распаўсюдзіліся творы і слава Рыгора Скаварады.

Калі яшчэ ў 1918 годзе за подпісам Леніна была прынята пастанова аб манументальнай прапагандзе, то побач з Пушкіным, Гогалем, Талстым і іншымі выдатнымі пісьменнікамі і дзеячамі было вырашана паставіць помнік і Скаварадзе.

Да юбілею на Украіне надрукаваны 23 кнігі паэта-філосафа і кнігі пра яго, у тым ліку два раманы, рыхтуецца для тэатра п'еса, будзе ўзведзены, акрамя Лахвіцы, помнік у Кіеве. Іван Кавалерыдзе стварыў мастацкі фільм «Рыгор Скаварада».

Сёлета юбілей Рыгора Скаварады адзначаецца ў 130 краінах — членаў ЮНЕСКА.

**Юрый НАЗАРЭНКА.**

# НАМАЛЮЕМ—БУДЗЕМ ЖЫЦЬ



Фота С. СЦЕПАНЕНКІ.

ШТОГОД у Мінску спраўляюць наваселлі паўтара дзесятка дзіцячых садоў і ясляў. Дашкольныя ўстановы займаюць у масавым жыллёва-грамадзянскім будаўніцтве сталіцы адно з вядучых месц. Цяпер дамы для малышоў будуюцца не толькі па тыповых, але і па індывідуальных праектах. Адзін з іх, распрацаваны архітэктарам Уладзімірам Цямновым, удастоены нядаўна дыплома на Усесаюзным аглядзе творчых дасягненняў савецкай архітэктуры.

Наш карэспандэнт пабываў у майстэрні архітэктара і ўзяў у яго інтэрв'ю.

**— У апошнія гады аддаецца перавага праектаванню дзіцячых садоў-ясляў вялікай змяшчальнасці. На якую колькасць дзяцей разлічаны ваш комплекс?**

— Наш камбінат праектаваўся на 280 месц. Гэта чатары групы ясельнага ўзросту і восем груп дзіцячага садзіка. Будынак складаецца з трох двухпавярховых аб'ёмаў, злучаных паміж сабой агульным першым паверхам. Блокі маюць незалежныя ўваходы, так што ў любы момант, у выпадку ўзнікнення інфекцыйных захворванняў, яны могуць быць ізаляваны адзін ад адчаго. Малым у доме прасторна. У ясельнай групеігральная-сталовая і спальня-веранда, напрыклад, дасягаюць 56 метраў. У садзіку яны яшчэ большыя — па 62 метры. Усе жыллёвыя памяшканні маюць двухбаковае асвятленне, засцярожаны ад скразнякоў спецыяльнай герметызацыяй. Дзверы паміж групавымі і спальнымі пакоямі пры жаданні могуць быць рассунуты і абодвы памяшканні аб'яднаны. Усё зроблена для таго, каб малым было ўтульна.

**— Ваш праект індывідуальны. У чым яго асаблівасці?**

— Індывідуальнасць праекта пачынаецца, на мой погляд, з выбару месца для будынка. Для нашага садзіка быў адведзены ўчастак з цікавым рэльефам. Мы паставілі перад сабой задачу максімальна яго выкарыстаць. Зрэзка грунту была праведзена толькі пад пляцоўку для гімнастыкі і масавых гулянняў. Самую пляцоўку з двух бакоў абнеслі падпорнай сцяной і аформілі пад «крэпасць». Атрымаўся сапраўдны дзіцячы гарадок з вежамі, варотамі, перакідным мастом, водным люстэркам. Ля цокалю будынка запраектаваны ценявыя павеці, кладовыя для захоўвання калясак і саначак, памяшканні для цацак.

Распрацоўваючы праект, мы выкарысталі вопыт, накоплены інстытутам Белдзяржпраект па стварэнні тыповых праектаў дзіцячых дашкольных устаноў. Іх ужо некалькі дзесяткаў. Індывідуальныя праекты, улічваючы гэты вопыт, у сваю чаргу, узбагачаюць іх.

**— Дашкольныя ўстановы ставяць сваёй задачай усебаковае развіццё дзіцяці. Яны клапоцяцца аб яго фізічным, разумовым, працоўным, эстэтычным выхаванні. На эстэтычным выхаванні хацелася б спыніцца. Што могуць зрабіць у гэтым напрамку архітэктары?**

— Вельмі многае. Асновы для эстэтычнага выхавання дзяцей павінен даць ужо сам праект. Выраз жа «мы родам з дзяцінства» мае універсальны характар. Менавіта ў дзіцячыя гады фарміруюцца густы, схільнасці, здольнасці чалавека, і ад нас залежыць, ці навучыцца ён з ранніх год любіць і цаніць цудоўнае або застанецца эстэтычна глухім.

Каб з першага кроку ўвесці дзіця ў свет яркі і маляўнічы, мы пастараліся пазбегнуць шэрых сцен, стамляючых пераходаў, сумных прыхожых. У холе, напрыклад, з таніраванага шамоту зроблена кампазіцыя на тэму казкі «Церамок». Яна звязала знешнюю і ўнутраную прастору. У залах для музычных і спартыўных заняткаў зроблены вялікія вітражы, прысвечаныя героям любімых казак, баек. Тут і кот у ботах, і чырвоная шапачка, і пеўнік з дудачкай. Займацца ў такіх залах вельмі цікава. Але мастацкія элементы нясуць не толькі прыкладную функцыю. Яны фарміруюць густы дзяцей, развіваюць іх фантазію, самадзейнасць. Мазаічнае «блюда» ў маленькім басейне, напрыклад, дае дзецям уяўленне аб цудах мораў. Выкладзеныя з каменю марскія звяры па краях басейна нібы пераводзяць плоскаснае адлюстраванне ў аб'ём. Да паслуг дзяцей надуўныя гумавыя цацкі на марскія тэмы. Дзіця ў такім басейне падарожнік і даследчы, яму цікава і весела.

Дарэчы, дзеці ў басейне не толькі гуляюць. Тут іх вучаць плаваць. У штаце дзіцячага сада спецыяльны выкладчык— трэнер па плаванню.

**— Наогул, мабыць, цяжка праектаваць для дзяцей?**

— Цяжка... Можа быць нам з жонкай, яна таксама архітэктар, лягчэй таму, што мы самі маладыя бацькі. Яшчэ некалькі год назад хадзіў у садзік наш старэйшы, цяпер рыхтуемся аддаць у яслі паўтарагадовую Кацюшу. Так што дзіцячыя праекты трапілі да нас, як быццам і не выпадкова. Але мы займаемся не толькі садзікамі. Майстэрня, якой я кірую, праектуе зараз жылыя дамы з аб'ёмных элементаў. Гэты прагрэсіўны метад знаходзіць у Беларусі ўсё большае распаўсюджанне. Недалёка, відаць, той час, калі з гатовых аб'ёмаў, зробленых на заводзе, можна будзе збіраць і дамы для дзяцей. Дзіцячых комплексаў стане тады яшчэ больш, а праекты іх будуць яшчэ больш разнастайнымі.

# ЧАСОПІСЫ Ў СНЕЖНІ

## «ПОЛЫМЯ»

Адкрываецца нумар артыкулам першага сакратара ЦК КПБ П. М. Машэрава «Аб некаторых рысах і асаблівасцях нацыянальных адносін ва ўмовах развітага сацыялізму», які перадрукоўваецца ў перакладзе на беларускую мову з пятнаццатага нумара часопіса «Коммунист».

Цікавы артыкул А. Вялюгіна «Сэрца з сэрцам гутарку вядзе».

У раздзеле паэзіі — «Паэма прызнання» Р. Барадуліна, вершы «Песня Расіі» Е. Лось, «Снежань» П. Панчанкі, «Хлеб дружбы» С. Грахоўскага і іншыя.

Народны паэт Беларусі П. Броўка выступае з апавяданнямі. У раздзеле прозы таксама чытач знойдзе заканчэнне новага рамана А. Савіцкага «Тры непражытыя дні», апавяданне «Дырэктар» Л. Левановіча, Ю. Новікаў выступае з «Наваполацкімі эцюдамі».

Раздзел «Крытыка і літаратуразнаўства» прадстаўлены артыкуламі В. Івашына «Сацыялістычны рэалізм і садружнасць савецкіх літаратур» і В. Рагойшы «Анталогія дружбы».

Надрукаваны рэцэнзіі В. Мысліўца на серыю кніг «Саюзныя рэспублікі», М. Арочкі на зборнік «Дзень паэзіі, 1972» і іншыя.

У канцы нумара—пералік матэрыялаў, надрукаваных у часопісе на працягу года.

## «МАЛАДОСЦЬ»

Шмат у гэтым нумары, які прысвячаецца паўвекавому юбілею Краіны Саветаў, вершаў. Свае новыя творы прапанавалі часопісу П. Броўка, Ул. Някляеў, змешчаны ў перакладзе на беларускую мову творы маладых паэтаў братніх рэспублік.

П. Кавалёў выступае з апавяданнем «След да акна». Б. Сачанка прапануе чытачу ўрывак з новай кнігі. З перакладаў цікавыя апавяданні Ул. Сангі і В. Баброва.

У раздзеле публіцыстыкі — артыкулы Г. Анціпава «Ствaральны почырк маладосці», В. Ждановіча «Магутны поступ зубра» і іншыя.

Часопіс вялікую ўвагу надае пытанням літаратуры і мастацтва, знаёміць са спісам матэрыялаў, што друкаваліся на яго старонках на працягу года.

## «БЕЛАРУСЬ»

Шэраг матэрыялаў у часопісе расказвае пра святкаванне ў рэспубліцы 90-годдзя з дня нараджэння Я. Коласа і свята Кастрычніка. У нумары новыя вершы Хв. Чэрні, А. Бялевіча, П. Пруднікава і іншых, апавяданне Я. Радкевіча і апавяданне М. Шолахава «Двумужняя» (пераклад Л. Салаўя).

Анатоль Вялюгін выступае з артыкулам, прысвечаным паўвекавому юбілею старэйшага літаратурнага часопіса рэспублікі — «524 кнігі «Полымя».

Значнае месца адводзіцца матэрыялам, якія прысвечаны 50-годдзю СССР. «Трывалы падмурак» — так называецца выступленне члена КПСС з 1918 года, дэлегата І Усесаюзнага з'езда Саветаў М. Шалюка. Фотарэпартаж «Год нараджэння, 1922» М. Мінковіча расказвае аб юбілеі Беларускага політэхнічнага інстытута.

Дырэктар Кармянскай школы-інтэрната, заслужаны настаўнік БССР, кандыдат педагагічных навук, Герой Сацыялістычнай Працы М. Дзмітрыеў у артыкуле «Да запаветнай мэты» расказвае аб развіцці педагагічнай адукацыі на Кармяншчыне.

Чытача зацікавяць нарыс В. Нупрэева «Высокі поўдзень», уражанні Б. Крэпака аб мастацкай выстаўцы ў Дзяржаўным музеі БССР.

Народны паэт Кіргізіі Цеміркул Уметаліеў і Сямён Савянок з Лоеўшчыны некалі разам ваявалі. З іх дазволу прапануюцца некаторыя ўрыўкі сяброўскай перапіскі.

Часопіс, як заўсёды, рэцэнзуе новыя кнігі.

## «НЕМАН»

Цікавая падборка «Да 50-годдзя СССР». Адкрываецца яна інтэрв'ю з намеснікам старшыні Савета Міністраў БССР, старшынёй Дзяржбуда БССР Ф. Л. Кохановым, міністрам культуры БССР Ю. М. Міхневічам і іншымі.

Змешчаны аўтарызаваны пераклад на рускую мову ўрыўка з паэмы С. Грахоўскага «Вытокі». Ф. Яфімаў пераклаў урывак з паэмы А. Бялевіча «Людзі і нелюдзі». Часопіс знаёміць чытача і з перакладам аповесці В. Мысліўца «Гарачая сталь».

Раздзел публіцыстыкі адкрываецца артыкулам В. Вярнігор «Улада Саветам». У пачатку года часопіс сумесна з рэдакцыяй шматтыражкі БПІ «Советский инженер» звярнуўся да студэнтаў падзяліцца сваімі ўражаннямі аб працоўным семестры. На заклік журналістаў адгукнуліся студэнты і з іншых ВНУ. Іх адказы змешчаны пад назвай «Лета-72». Друкуецца цікавы артыкул Б. Шарашэўскай «Калі зб спектаклі спрачаюцца».

Партрэт народнага паэта рэспублікі Героя Сацыялістычнай Працы П. Броўкі адкрывае раздзел крытыкі. На наступных старонках артыкулы М. Ларчанкі «Братэрства народаў — братэрства літаратур», Ул. Піменава «Майстар» (штрыхі да партрэта народнага пісьменніка БССР К. Крапівы).

У «Книжном обозрении»—рэцэнзіі: «Час і яго героі» А. Рагулі на зборнік «Беларускія аповесці», «Імкненне да ідэалу» Ул. Аніcковіча на зборнік апавяданняў В. Хомчанкі «Чырвоныя хвалі» і іншыя.

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

**ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ**

Мал. М. КАРАБКО.






Рыгор ЛАЗУРКІН






*Шарыку і некаторым аўтарам апавяданняў пра жывёл прысвячаецца*

КІЛЯШКОЎ ікнуў і паглядзеў на стол. Сярод мноства бруднага посуду і сякой-такой закускі стаяла адкаркаваная, але яшчэ поўная, бутэлька віна.

— І куды падзеўся гэты прайдоха Выжыга? Вось жыццё, нават выпіць няма з кім, — раззлавана працадзіў скрозь зубы Кіляшкоў, і раптам сустрэў разумны позірк Тузіка, які пад сталом грыз костку.

— Ту-зі-чак, хадзі сюды, — ласкава пазваў гаспадар, наліваючы віна сабе і сабаку. Калі наліў паўшклянкі, Тузік подбегам кінуўся да стала і лапай накрыў рыльца бутэлькі. Маўляў, хопіць.

— На, закусі, — паблажліва сказаў Кіляшкоў Тузіку, калі той асушыў сваю шклянку, і кінуў яму ладны кавалак хлеба.

Некалькі хвілін пасядзелі моўчкі. Але хмель браў сваё, і Кіляшкоў не стрымаўся, зацягнуў песню. Тузік тужліва пачаў падвываць гаспадару.

— Схадзі, браток, яшчэ бутэлечку прынясі, — праз колькі хвілін папрасіў Кіляшкоў, даючы Тузіку ў лапу скамечаны рубель. Той навастрыў вушы, і прарэзліва гаўкнуў сем разоў. Кіляшкоў зірнуў на гадзіннік: сапраўды было ўжо сем гадзін вечара, і вінны аддзел акурат зачыняўся.

— Разумненькі ты мой, — праслязіўся гаспадар, і пацалаваў сабаку ў халодны нос. — Бяжы хутчэй...

У магазін Кіляшкоў больш не хадзіў. Тузік навучыўся не толькі віно купляць, але і здаваць парожні посуд. Аднойчы, як звычайна, Кіляшкоў сядзеў за сталом і чакаў, калі Тузік вернецца з гастранома. У дзверы нехта пастукаў. Кіляшкоў адчыніў іх і вельмі здзівіўся. У дом зайшоў незнаёмы мужчына.

— Вы будзеце Мікалай Кіляшкоў? — адразу запытаўся ён.

— Так, — яшчэ нічога не разумеючы, адказаў той.

— І ў вас ёсць сабака па клічцы Тузік?

Кіляшкоў і цяпер нічога не разумеў.

— Вы — ветэрынар? Але ж я вас не выклікаў, — пачаў апраўдвацца ён, — Тузік ўпаўне здаровы, вось хутка з магазіна вернецца.

— Наадварот, ён зусім хворы, — адказаў чалавек, і адрэкамендаваўся: член таварыства абароны жывёл Куніцын. За нечалавечыя адносіны да сабакі, за спойванне яго, вы штрафуецеся. А сабаку прыйдзецца забраць.

Дзверы расчыніліся і ўскочыў з бутэлькай віна ў зубах Тузік. У адно імгненне на шыі ў яго з'явіўся ружовы ашыйнік з павадком.

Тузік доўга і пільна глядзеў на свайго старога гаспадара, адчуваючы, што бачыць яго ў апошні раз. Вочы ў яго былі вільготныя. Не давяла да дабра гарэлка! А разумны быў сабака...

---

Віктар ШАЎЧЭНКА

## ПРАМОВА

«Таварышы! Сябры! Мы сышліся сюды, каб правесці ў апошні шлях нашага любімага, дарагога, незабыўнага Сямёна Кузьміча, чалавека рашучага і сумленнага, чулага і надта смелага. Нягледзячы на свае 23 гады, ён даказаў, што з'яўляецца самым сталым сярод нас і самым сур'ёзным.

Дарагі наш таварыш! Сябрук! Не доўга ты з намі жыў, але слаўна! Шмат чаго не паспеў здзейсніць, што задумаў, але і зроблена не мала.

Дазволь жа мне ад імя тваіх верных сяброў сказаць: бывай, дружбак! Даруй, што мы цябе не ўберaглі!»

Сямён Кузьміч... пацалаваў нявесту, падняў на рукі і панёс у расквечаную «Волгу». Вясельны картэж машын імкліва накіраваўся ў рэстаран «Зара», дзе госці з нецярпеннем чакалі шчаслівых маладых і іх сяброў.

---

Ул. САЗАНОВІЧ

### У РЭДАКЦЫІ

*— Па вашых вершах відаць, што ў вас ёсць творчыя задаткі. Але трэба яшчэ многа, вельмі многа працаваць. Чытаць, перачытваць...*

*— І вы думаеце, дапаможа?*

*— Абавязкова! Чым больш вы будзеце чытаць, тым менш часу ў вас застанецца пісаць!*

### ПАКУТЫ РЭДАКТАРА

*— Добры загаловак! Вось бы артыкул да яго!*

### ШЧЫРАЕ ПРАБАЧЭННЕ

*— Якое ты маеш права гаварыць усюды, што я не таленавіты?*

*— Прабач, калі ласка, я не ведаў, што гэта твой сакрэт.*

---

Браты БАРОЎКІ

## ДЗЯДЗЬКА-МАСТАК

**Кажа дзядзька гарадскі**
**Дзецям пра жывёлу:**
**— Вось карова, вось бычкі...**
**Намалюю й болей.**
**Вось свіння і певень вось,**
**Дзеці, вось авечка.**
**Ёсць яны — і мяса ёсць,**
**Яйкі, ўсё, бясспрэчна.**

**Дзядзька спрытны, бо — мастак,**
**І ў добрым натхненні,**
**Але Янка — вось дзівак! —**
**Не ў задавальненні.**
**Просіць: — Дзядзька-дабрадзей,**
**Кінь гульню пустую,**
**Намалюй ты нам людзей,**
**Што жывёл гадуюць.**

---

Сямён ПАЦЁМКІН

## ЗАМІНКА

**Сябры,**
**Мне покуль што даволі.**
**Я зараз болей**
**Выпіць не магу.**

**Прыб'ю афішу —**
**«Фільм аб шкодзе алкаголю»,**
**І зноў...**
**Да вас я падбягу.**

---




ГЭТА было даўно. У той час перацягвалі сонца з захаду на ўсход уручную. Адзін залазіў на сонца, прывязваў вяроўку, другі праз пянёк падцягваў.

Цягнулі сонца апостал Варфаламей і яго падручны Анонід.

— Цяжкая работа, а цягнуць далёка. Давай паснедаем, — прапаноўвае апостал.

Паснедалі.

— Не еўшы нудліва, а паеўшы тужліва. Давай заадно і паабедаем, — працягвае апостал.

Паабедалі. Стала яшчэ цяжэй. Пасля гэтага боскія работнікі вырашылі і павячэраць.

— А ведаеш, што пасля вячэры неабходна? — павучальна прамовіў апостал Варфаламей.

— Паспаць, — з гатоўнасцю адказаў кемлівы падручны Анонід.

Паспалі.

— Можа, папрацуем? — сарамліва запытаўся падручны.

— Не спяшайся.

— Але ж сонца вунь ужо дзе...

— Гары яно агнём. Пайшлі лепш нарад складаць.

Прыходзяць боскія работнікі да бухгалтара трэста «Сонцацяга» Смія Вітольдавіча. Складаць нарад. Хоць на грош амуніцыі ды на рубель амбіцыі, — гавораць:

— Пішы. Разгрузка і пагрузка сонца. Дзесяць рублёў.

— Пабойцеся Бога.

— А што нам Бог. Не падабаецца? Пяройдзем да Сатаны, будзем Месяц цягаць.

Смій ёсць Смій. Звоніць Богу. Так і так, маўляў. Крыжа на іх няма. Збіраюцца да Сатаны пераходзіць.

Бог крычыць:

— Трымай!

— Дык яны ўвесь крэдыт-дэбіт пацягнуць.

— Пацерпім.

Бог цярпеў і іншым наказваў. Смій Вітольдавіч працягвае складаць нарад.

— Пішы, — раздумліва гаворыць апостал Варфаламей, гледзячы на нябесную столь. — Разгон хмараў са званіцы венікам. Трынаццаць рублёў.

Бухгалтар зморшчыўся, але церпіць.

— Далей. Перавозка дажджу на вераб'ях. Сем рублёў.

Бухгалтар на месцы падскоквае, але церпіць.

— Далей. Перацягванне дыму ў торбах супроць ветру. Васемнаццаць рублёў.

Бухгалтар церпіць, але пытаецца, скрыгочучы зубамі:

— Чаму многа?

— Ну, дык сам цягай тады.

Атрымалі работнікі грошы і забыліся пра сонца.

●

Гэта было даўно. У нашы дні на змену вяроўцы прыйшлі механізацыя, аўтаматызацыя і іншыя штучкі-дручкі.

Але бессмяротныя Варфаламей і Анонід па-ранейшаму жывыя. Працуюць яны ў адным зямным трэсце, ходзяць чуткі, што дождж на вераб'ях возяць.

Пераклад з рускай мовы.

---

По тэхнічных умовах унутраныя восем старонак газеты друкуюцца і выпускаюцца асобна ад васьмі знешніх. Атрымаўшы або набыўшы газету, укладзіце ўнутраныя аркушы ў знешнія.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Адрас рэдакцыі: 220600. ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-44-04, аддзела літаратуры — 33-22 04, аддзела тэатра, кіно і музыкі — 33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-21-53, аддзела культуры — 33-24-62, выдавецтва — 32-22-19, бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.

Галоўны рэдактар Х. Д. ЖЫЧКА.



Індэкс 63856 АТ 21056